# Барацьба за сваячасовае правядзеньне веснавой пасеўкампаніі—барацьба за падняцьце ўраджайнасьці

*Да ўсіх раённых т-ваў і ячэек, да ўсіх савецкіх паляўнічых!*

Надыходзіць трэцяя бальшавіцкая веснавая пасеўкампанія. У абавязак кожнага раённага т-ва паляўнічых, кожнай паляўнічай ячэйкі ўваходзіць арганізаваць праверку і самаправерку падрыхтоўкі да сяўбы. Сваячасовая і шчыльная падрыхтоўка да веснавой сяўбы зьяўляецца стымулам да падняцьця ўраджайнасьці нашых палёў. Белкахотсаюз, пасылаючы гэты ліст на мясцы, спадзяецца, што кожнае праўленьне райтаварыства паляўнічых прыме належныя захады да сваячасовай падрыхтоўкі паляўнічых мас па пасьпяховаму правядзенью трэцяй бальшавіцкай пасеўкампаніі. Практычна Белкахотсаюз раіць прыступіць зараз-жа да ажыцьцяўленьня наступных мерапрыемстваў.

1. Пад кіраўніцтвам партыйных і савецкіх органаў правесьці на сходах сярод паляўнічых мас, калгасьнікаў, паляўнічых ячэек растлумачальную кампанію аб значэньні трэцяй бальшавіцкай веснавой кампаніі і ўдзелу ў ёй паляўнічых[1]).

2. Практычна, на справе дапамагчы ў рамонце сельскагаспадарчага інвэнтару, машын, ачысткі насеньня—збожжа. Для гэтай мэты арганізаваць з паляўнічых кавалёў, сьлесароў і інш. спэцыялістаў рамонтныя брыгады, суботнікі для выезду ў дапамогу калгасам.

3. Распрацаваць плян працы праўленьня на час веснавой кампаніі з тым, каб кожны паляўнічы прыняў-бы ў працы ўдзел як у калгасе, на вёсцы, так і на заводзе і фабрыцы.

4. У канцэлярыях т-ваў паляўнічых, крамах, чырвоных паляўнічых кутках вывесіць плякаты лёзунгі аб пасеўкампаніі. У насьценгазэтах асьвятляць ход пасеўнай кампаніі і ўдзел у ёй паляўнічых мас.

5. Шырока разгарнуць работу аб засеве ў гэтую вясну кожным раённым т-вам уласных вучасткаў, у разьмеры 2—3 *га* аўса, ячменю, бульбы для забесьпячэньня харчамі паляўнічых сабак, для чаго неабходна дагаварыцца з належнымі органамі аб водпуску т-ву неабходнай плошчы зямлі, насеньня-збожжа. Трэба прыняць усе крокі, каб збожжа набыць на мясцох. На гэта неабходна зьвярнуць паляўнічую думку, дабіцца ад паляўнічых дапамогі аб засеве грамадзкай плошчы для забесьпячэньня харчаваньня паляўнічых сабак.

6. Раённым паляўнічым т-вам, якія маюць уласныя трусагадоўчыя і іншыя гаспадаркі з плошчай зямлі, трэба зараз-жа паклапаціцца засеяць гэтую плошчу з тым, каб увосень гэтага году і на 1933 г. поўнасьцю забясьпечыць уласнымі кармамі трусоў, коняй, кароў і г. д., якія ёсьць у раённых т-вах. Бязумоўна, неабходна скарыстаць усе магчымасьці для забесьпячэньня збожжам цягавай і рабочай сілы. Зараз-жа падаць заяўкі на патрэбны інвэнтар, машыны, насеньне і мець на ўвазе, што разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі непавінна базіравацца на дзяржаўным забесьпячэньні кармамі і насенным матар'ялам у 1933 годзе, а наадварот, трэба ўзяць курс дапамагчы рабочаму харчаваньню. Праўленьні райтаварыстваў паляўнічых, паляўнічыя ячэйкі і ўся паляўнічая маса павінны прымаць актыўны ўдзел у 3-яй бальшавіцкай вясьне.

**З таварыскім прывітаньнем:**
**Праўленьне Белкахотсаюзу—Волдынь, Бабчонак.**

[1]) Больш падрабязна аб пасеўкампаніі чытай артыкул у гэтым-жа нумары „За баявую падрыхтоўку да трэцяй бальшавіцкай вясны“.

# Брагінскае т-ва разгарнула работу

Перарэгістрацыя паляўнічых у разгары. На 25 студзеня было перарэгістравана 357 чалавек. Разам з перарэгістрацыяй разгортваецца і іншая работа. Так, напрыклад, праходзіць чыстка саюзу. Замест выключаных кулакоў уцягнута ў т-ва 47 новых паляўнічых з моладзі. Сабрана 222 руб. 50 к. на пабудову дырыжаблю „Клім Варашылаў“. На часопіс „Паляўнічы Беларусі“ падпісалася 227 паляўнічых, на „Калгасьнік Беларусі“—60.

Сацыяльны склад т-ва зараз наступны: калгасьнікаў 75 проц., рабочых і служачых—10 проц. і аднаасобнікаў—15 проц.

Ёсьць дасягненьні т-ва і па мясанарыхтоўках. Ячэйкамі Брагінскага т-ва паляўнічых нарыхтавана мясадзічыны 159 кілёграм.

**І. Сідарэнка.**

# Прыцягнуць да адказнасьці

Рэўкамісія Талачынскага т-ва паляўнічых выкрыла растрату грамадзкіх сродкаў старшынёй гэтага т-ва **Буголецам** у разьмеры 618 р., падлог па рахунку пошты на 10 рублёў, займа індустрыялізацыі на 285 руб., набору тавару на 200 рублёў, а ўсяго растрата выявілася ў разьмеры 1.173 руб. Крамнік гэтага т-ва **Пазьняк** растраціў 2.474 руб., бяручы з крамы тавары.

**Бугалец** і **Пазьняк** прыцягнуты да адказнасьці, справа якіх будзе разглядацца ў паказальным судзе.

**Паляўнічы.**

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

**ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.**


ЗЬМЕСТ


Перадавая—**За баявую падрыхтоўку да трэцяй бальшавіцкай вясны.**
Дырэктывы да складаньня другога пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі СССР (1933-1937 г. г.).
Конкурс нізавога друку—справа ўсёй КП(б)Б—**У. Дуброўскі.**
„Чырвоная армія—оплот міра".
За дадатковыя рэсурсы харчаваньня.
Вясна ў паляўнічай гаспадарцы — **Мік. Цэлеш.**
Вясна і ячэйкі паляўнічых—**М. Ц.**
Узьняць тэмпы загатоўкі крата — **Мікалаеў.**
Рашуча змагацца за мехсыравіну—**Бабчонак.**
Арганізаваць бібліятэчкі—**С-ка.**
Там, дзе разумеюць задачы — **А. Сідарэнка.**
Рост трусагадоўлі ў паляўнічай каапэрацыі—**Б. С.**
Бяз вучоту нельга працаваць — **Паўлюк.**
На дапамогу гарадзкому паляўнічаму—**С-ч.**
Контрактацыю ў цэнтр увагі — **А. С-ка.**
Паляваньне ў Аршанскім раёне — **Манькоўскі.**
Вынікі Лагойскага райтаварыства—**Я. Сапрык.**
Няма ініцыятывы — **Палясоўшчык.**
Брагінскае т-ва разгарнула работу.—**І. Сідарэнка.**
Прыцягнуць да адказнасьці—**Паляўнічы.**
Ударнікам, барацьбітом за пушніну—прэмія.
Ліст Белкахотсаюзу аб пасеўкампаніі.



**№ 2**

**ЛЮТЫ**

**1932 г.**


# ЗА БАЯВУЮ ПАДРЫХТОЎКУ ДА ТРЭЦЯЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ ВЯСНЫ

„Веснавая сельскагаспадарчая кампанія 1932 году набывае вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў выкананьні праграмы чацьвертага—заключнага году пяцігодкі" (з пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР). Веснавая пасеўная кампанія гэтага году будзе праходзіць зусім у іншых умовах, чым у мінулыя гады. Калі вясной 1930 году мы заваявалі толькі першыя пазыцыі ў барацьбе за масавае ўступленьне беднякоў і сераднякоў на шлях калектывізацыі, калі ў 1931 годзе веснавую пасеўкампанію мы праводзілі на базе арганізацыі новай хвалі калгаснага ўздыму, дык пасеўкампанія вясны 1932 году будзе праводзіцца намі ва ўмовах абсалютнай і рашаючай перавагі сацыялістычнага сэктару ва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі. Мы маем ужо па СССР звыш 62 проц. калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, па БССР гэты процант перавышае 50. Калгаснае сялянства ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства. Калгасьнік стаў моцнай апорай партыі і ўлады на вёсцы.

На аснове буйнага калектыўнага земляробства — на базе саўгасаў і калгасаў—партыя пасьпяхова вырашыла праблему зярна і тэхнічных культур, на гэтай-жа аснове з посьпехам вырашаецца цэнтральная на даным этапе задача ў сельскай гаспадарцы — разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Мы маем аграмадны рост пасеўных плошчаў. За апошнія два гады мы дабіліся па СССР пашырэньня пасеўнай плошчы на 18 мільёнаў *га*, у той час, калі ў былой царскай Расіі за 10 год перад вайной пасеўная плошча была вырасшы ўсяго толькі на 15 мільёнаў.

Усё гэта гаворыць за вялізарныя магчымасьці калгаснай формы земляробства за тое, што мы павінны з посьпехам правесьці надыходзячую веснавую сяўбу. Патрэбна толькі поўнасьцю рэалізаваць усе магчымасьці, перавагі калектыўнай гаспадаркі. Патрэбна толькі шырокая мабілізацыя мас калгасьнікаў і беднякоў і серадняноў-аднаасобнікаў на выкананьне пастаўленых партыяй і ўрадам задач па правядзеньню гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі.

Цэнтральны камітэт КП(б)Б і Саўнаркомам БССР у сваёй пастанове аб падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы азначылі, што **„цэнтральнымі задачамі гэтай кампаніі павінны зьявіцца: арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў, арганізацыя працы ў калгасах на аснове ажыцьцяўленьня сапраўднай зьдзельшчыны, пастаноўка справы ўліку, ліквідацыя абязьлічкі і ўраўнілаўкі, барацьба за павышэньне якасных паказчыкаў у сельскай гаспадарцы і асабліва ў сацыялістычным сэктары, укараненьне агратэхнікі і ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў тав. Сталіна ў саўгасах, калгасах і МТС, падрыхтоўка кадраў, поўнае выкананьне пасеўных плянаў"**.

Дасягнутыя намі посьпехі ў арганізацыі калгаснай вытворчасьці далёка яшчэ ня вычарпалі ўсіх магчымасьцяй буйной сацыялістычнай гаспадаркі. Гэтыя посьпехі зьяўляюцца толькі першымі крокамі ў справе выкарыстаньня маючых у нас магчымасьцяй. Мы, напрыклад, не разгарнулі яшчэ належнай барацьбы за высокі ўраджай калгасных палёў. Нашы ўраджаі вельмі яшчэ нізкія ў параўнаньні з тымі, якія мы можам мець пры плянавым вядзеньні сацыялістычнай гаспадаркі.

Мы і зараз маем яшчэ шмат калгасаў, у якіх справа арганізацыі працы пастаўлена па-старому, ня ўведзена зьдзельшчына, пануе абязьлічка. Зусім зразумела, што пры такой пастаноўцы работы — ня можа быць ніякіх посьпехаў у падняцьці калгаснай вытворчасьці, ня можа быць посьпехаў у арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні калгасу.

У падрыхтоўчую веснавую кампанію партыйныя, савецкія, камсамольскія арганізацыі і ўся калгасная сыстэма павінны зьвярнуць максімум увагі на пастаноўку арганізацыі працы ў калгасах з тым, каб да пачатку сяўбы ў кожным калгасе, на аснове чоткіх плянаў былі створаны брыгады і дадзены гэтым брыгадам адпаведныя вучасткі з зямлі, на якіх яны павінны будуць работаць. На арганізацыю брыгад павінна быць зьвернута выключная ўвага, таму што **„важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах павінна стаць брыгада“** (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4-ІІ—32 г.).

У гэтую веснавую пасеўкампанію ва ўсю шырыню трэба разгарнуць работу па павышэньню ўраджайнасьці, скарыстаўшы для гэтага ўсе маючыя ў калгасах мажлівасьці і сродкі. Аднэй з важнейшых умоў пасьпяховай барацьбы ва павышэньне ўраджайнасьці калгасных палёў зьяўляецца барацьба за максымальна скарочаныя тэрміны сяўбы.

**Правесьці ўсю веснавую сяўбу ў 10—15 дзён—такава задача саўгасаў, калгасаў і МТС**. Толькі чоткія вытворча-фінансавыя пляны, правільная расстаноўка працоўнай сілы і добрая падрыхтоўка да сяўбы — забясьпечыць сканчэньне сяўбы ў гэтыя тэрміны.

Рамонт трактароў, сельскагаспадарчых машын і інвэнтару—адна з важнейшых задач у падрыхтоўчай рабоце да веснавой сяўбы. Усе сельскагаспадарчыя машыны і трактары да пачатку сяўбы павінны быць адрамантаваны і замацаваны за брыгадамі і асобнымі рабочымі. Трэба памятаць, што абязьлічка—зьлейшы вораг калгаснай вытворчасьці, што **„пры абязьлічцы ня можа быць і гутаркі аб колькі-небудзь сур'ёзным уздыме вытворчасьці працы, аб палепшаньні якасьці прадукцыі, аб беражлівым абыходжаньні з мэханізмам, станком, інструмантам“** (Сталін).

Ніводзін кавалак саўгаснай і калгаснай зямлі не павінен быць абсеяны неачышчаным насеньнем. Ачыстку насеньня трэба ўвязаць з задачай стварэньня насенных фондаў, якія ў падрыхтоўцы да пасьпяховага севу адыгрываюць рашаючую ролю в загатоўкай насеньня, з задачай мабілізацыі ў кожным саўгасе і калгасе ўнутраных насенных рэсурсаў.

Не зацягваць, як гэта было ў некаторых калгасах у мінулую веснавую пасеўкампанію, з загатоўкай ўгнаеньня. Загатоўку і вывазку ўгнаеньня трэба правесьці да веснавога разводзьдзя, зімою.

Трэцяя бальшавіцкая вясна мае выключнае гаспадарча-палітычнае значэньне. Пасьпяхова арганізаваць і правесьці падрыхтоўку да вясны, па-баявому пераможна правесьці сяўбу—гэта значыць забясьпечыць выкананьне пляну чацьвертага заключнага году пяцігодкі, гэта значыць забясьпечыць посьпех у арганізацыйна - гаспадарчым замацаваньні калгасаў. Таму падрыхтоўцы і правядзеньню веснавой пасеўнай кампаніі павінна быць зьвернута выключная ўвага партыйных, камсамольскіх, савецкіх арганізацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці.

Зразумела, што і паляўнічыя не павінны стаяць у баку ад правядзеньня гэтай кампаніі. Кожная паляўнічая ячэйка, кожнае раённые т-ва, кожны ў асобку член саюзу паляўнічых — павінен быць актыўным змагаром за выкананьне намечаных плянаў сяўбы, за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў. **Трэба зараз-жа ўключыцца ў правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі.** Кожная ячэйка паляўнічых павінна распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы і правядзеньню веснавой сяўбы. Трэба памятаць, што ні ў якім разе нельга адрываць нашай паляўнічай справы ад агульных задач сацыялістычнага будаўніцтва. Хто гэтае робіць — той робіць буйнейшую палітычную памылку.

Зімовы пэрыяд — важнейшы этап у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Трэба арганізаваць справу так, каб кожную гадзіну ў зімовы час як мага поўнасьцю выкарыстаць на падрыхтоўку да сяўбы. А між тым мы і зараз яшчэ маем такія калгасы, у якіх нічога практычнага ня зроблена па падрыхтоўцы да вясны разважаюць: „вясна яшчэ далёка, пасьпеем“. Такія разважаньні граюць на руку клясаваму ворагу — кулаку, які імкнецца сарваць падрыхтоўку да сяўбы, які дамагаецца пашкодзіць арганізацыйна гаспадарчаму замацаваньню калгасаў і гэтым самым падарваць пасьпяховае наша калгаснае будаўніцтва. **На барацьбу з самацёкам у падрыхтоўцы да сяўбы, павінны быць мабілізаваны ўсе масы калгасьнікаў.**

Толькі на аснове правядзеньня генэральнай лініі партыі, рашучай барацьбы з кулаком і яго агентурай—правымі і „левымі“ апартуністымі могуць быць выкананы тыя адказьнейшыя задачы, якія стаяць перад веснавой пасеўнай кампаніяй гэтага году.

**Паляўнічыя павінны быць у першых шэрагах змагароў за выкананьне пасеўных плянаў.**



„Калгасьнікі Інтэрнацыяналу“ рыхтуюцца да сяўбы.

# Ажыцьцяўленьне пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4-га лютага па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў—у цэнтр увагі

Вялізарныя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, правільная палітыка нашай партыі ў адносінах да бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, прывялі да рашаючых перамог і ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна па савецкаму Саюзу 62 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'яднана ў калгасы з плошчай 79 проц. усіх сялянскіх пасеўных плошч. Лік МТС да вясны 1932 г. узрос да 2100 супроць 1228 у 1931 г.

БССР, як неразлучная частка Савецкага Саюзу таксама мае буйнейшыя посьпехі ў справе калектывізацыі. Гэтыя посьпехі, як разначыў сакратар ЦК тав. Шаранговіч у справаздачным дакладзе на XIV зьезьдзе КП(б)Б, у першую чаргу сьведчаць аб магутным росьце калектывізацыі, рашучым паваротам бядняцка-серадняцкіх мас на шлях сацыялізму. „Калі на 1-га лістапада 1928 г. было толькі 0,7 проц. калектывізацыі, на 1-га чэрвеня 1930 г. 11,1 проц., на 1 ае студзеня 1931 г.—15 проц., дык на 1-ае лістапада 1931 г. мы мелі ўжо 40 проц. і на 20 сьнежня—50,3 проц. Рад раёнаў, як Лепельскі, Койданаўскі Талачынскі, Чэрвеньскі, Сененскі, Бягомльскі, Касьцюковіцкі, Чарыкаўскі і інш., у асноўным завяршылі суцэльную калектывізацыю.

Посьпехаў у калектывізацыі мы дабіліся ў рашучай барацьбе з правым апартунізмам, з самацечнымі настроямі ў калгасным будаўніцтве, з „левымі" загібамі, якія былі даволі пашыраны ў некаторых раёнах. Гэтых посьпехаў мы дабыліся з улікам усіх абставін і ўмоў нашай работы ў нацыянальнай рэспубліцы—Беларусі.

Капітальныя ўкладаньні ў сельскую гаспадарку расьлі наступным чынам: у 1930 г.—42.123 тыс. р., у 1931 г.—77.844 тыс., руб. на 1932 год намечана 165 мільёнаў руб. Асабліва вялікае месца ў капіталаўкладаньнях вызначаецца росту машынізацыі сельскае гаспадаркі. Калі ў 1929 г. на гэту мэту скарыстана 5.400 тыс. р., дык у 1930 г. 7.726 т. р. Калі да XIII зьезду была адна машына-трактарная станцыя, то зараз налічваецца 1900 трактароў. На 1932 г. намечаны ахоп усіх раёнаў машына-трактарнымі станцыямі.

Ахоп калгасамі 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, разьвіцьце саўгасаў, рост капіталаўкладаньняў, мэханізацыя сельскае гаспадаркі сьведчаць аб вялізарных дасягненьнях КП(б)Б у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

Роля сацыялістычнага сэктару ў нашай сельскай гаспадарцы ўвесь час павялічваецца. У 1931 г. калгасы засеялі 47,3 проц. яравога кліну, з якога па ільну—51,3 проц., гародніне—64,1 проц., караньплодах—66 проц., шматгадовых травах—58,2 проц. і аднагадовых травах—62 проц.

Калгасы пры дапамозе пролетарскай дзяржавы ужо ў мінулым годзе паказалі прыклады пасьпяховай барацьбы за выкананьне чарговых гаспадарча-палітычных задач, паказалі вялізарную перамогу перад аднаасобным сэктарам. Калгасы значна лепш скарыстоўвалі як людзкую, так і цягавую сілу. На калгасьніка а таксама на калгаснага каня, і машыну прыпадала значна большая доля апрацоўкі глебы, засеву, узьняцьця зябліва і г. д.

Пры ўсім яшчэ нізкай прадукцыйнасьці нашага стада, у сацыялістчным сэктары ўсе ж такі маем больш высокі процант удою. Па саўгасах удой малака ў год (у сярэднім на адну карову) складае 1.400 кілёграм, у калгасах—1.000, у індывідуальным сэктары—920 кілёграм, у сярэднім па БССР—1.000 кгр.

На падставе тых мерапрыемстваў, якія праводзіла партыя ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, удзельная вага БССР у агульнай пасеўнай плошчы СССР увесь час узрастае. Асабліва яркае адлюстраваньнє мае павышэньне ўдзельнай вагі пасеўнай плошчы ільну, якая складала ў 1931 г.—10,2 проц., на 1932 г.—12,5 проц., бульба 8,9 проц., у 1932 г.—10 проц. У валавым зборы па ільнаваЛакне ўдзельная вага ў 1930 г. складала 6,6 проц., на 1932 г.—12,6 проц. Па бульбе—10 проц., намячаецца—12,5 проц.

Такім чынам і ў галіне сельскае гаспадаркі ёсьць значныя посьпехі, значнае павялічэньне пасеўнай плошчы, асабліва па тэхкультурам. Наогул удзельная вага БССР ва ўсёй агульнай пасеўнай плошчы Саюзу СССР увесь час узрастае". (З даклада т. Шаронговіча на XIV з'езьдзе КП(б)Б.

Гэтых посьпехаў наша партыя і ўрад дабіліся дзякуючы пасьлядоўнай і рашучай барацьбе з кулацтвам уплоць да яго (кулацтва) ліквідацыі на аснове суцэльнай калектывізацыі, з агэнтурай кулацтва, правымі апартуністамі, прадстаўляючымі галоўную небясьпеку на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва, а таксама „лявацкімі" заскокамі, харчуючымі правы апартунізм.

Дасягнутыя посьпехі з усёй яскравасьцю гавораць аб тым, што наша партыя на чале з ЦК і правадыром сусьветнага пролетарыяту тав. Сталіным пасьпяхова вырашыла пытаньне „хто каго" ў сельскай гаспадарцы як і ў прамысловасьці на карысьць сацыялізму.

Дабіўшыся рашаючых посьпехаў у справе ахопу бядняцка-серадняцкіх гаспадарак калгасамі, рад партыйных арганізацый і савецкіх устаноў не паклалі ў аснову сваёй штодзеннай работы пастанову ЦК УсеКП(б) ад 2-га верасьня 1931 г., у якой Цэнтральны Камітэт абавязаў усе партыйныя арганізацыі сканцэнтрываваць увагу на вырашэньні задачы арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў у іх сучаснай арцельнай стадыі разьвіцьця, што прывяло да імкненьня ў асобных месцах пераскочыць праз арцель да камуны, адміністацыйным шляхам пакончыць з індывідуальнай часткай гаспадаркі калгасьніка, ігнарыраваньня гэтай часткі гаспадаркі калгасьніка пры разьмеркаваньні прыбыткаў (адказ у водпуску кармоў для жывёлы, якая знаходзіцца ў індывідуальным карыстаньні калгасьніка і г. д.). Гэта толькі частка тых апартуністычных скажэньняў лініі партыі ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, якія меліся на месцох.

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 4-га лютага „аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў" яшчэ раз напамінае ўсім партыйным арганізацыям што: задача арганi-

зацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў зьяўляецца ў сучасны момант уперад за ўсё задачай разьвіцьця і ўмацаваньня арцельнай формы калгасаў што: „папытка штучнага ўскарэньня пераходу ад арцельнай формы калгасаў да камуны на сучаснай стадыі разьвіцьця калгасаў зьяўляецца сур'ёзнай небясьпекай“.

Выходзячы з гэтай зусім яскравай пастановы ЦК УсеКП(б)—неабходна зьвярнуць галоўную ўвагу на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне існуючай арцельнай формы калгасаў, якая зьяўляецца пануючай, „еще не развернута достаточна і не закреплена“. Ва ўсёй гэтай рабоце цэнтральнае мейсца займае калгасная брыгада, ад правільнай арганізацыі якой, умелага падбору брыгадзіра, які-бы забясьпечваў аўтарытэтнае і цьвёрдае кіраўніцтва брыгады, а таксама паліт. выхаваўчай работы ў ёй, правільнай расстаноўкі сіл, прымацаваньня да сталага вучастку работы, разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, як па колькасьці, так, асабліва, і па якасьці працы паміж брыгадамі—залежыць вельмі многае ў сэнсе наладжваньня бесьперабойнай работы ў калгасе.

Ліквідацыя абязьлічкі, як асноўнага зла ў наладжваньні работы ў калгасах і падняцьце прадукцыйнасьці работы калгасьніка магчыма дабіцца шляхам прымацаваньня калгасьнікаў ня толькі ўходу за жывёлай і інвэнтаром, але і да пасеўнага вучастку — „брыгады, як правіла, павінны ня толькі засеяць дадзены ім вучастак, але і адказваць за ўраджай з гэтага вучастку і, у залежнасьці ад посьпехаў работы брыгады, павінны для яе ўстанаўлівацца ацэнка працадня“. (З перадавіцы „Правды“). Толькі ў гэтых умовах брыгада сапраўды стане ня толькі цэнтрам вытворчай, але і ўсёй масава-палітычна-выхаваўчай работы.

У падрыхтоўцы да веснавога севу аднэй з важнейшых умоў зьяўляецца завяршэньне хлебанарыхтовак, ад пасьпяховага выкананьня плянаў якіх залежыць своечасовая дапамога пацярпеўшым ад недарода раёнам у сэнсе насенных і харчавых фондаў, вядучы самае рашучае змаганьне з кулацтвам, якае імкнецца супроць паставіць здачу (продаж) збожжа дзяржаве, засыпцы насенных і страхавых фондаў.





БССР у мінулым годзе мела ўраджай па яравых пасевах вышэй сярэдні. Таму зьяўляецца бясспрэчным тое, што калгасы і аднаасобныя сэктары павінны быць забясьпечаны сваім насеньнем, асноўную ўвагу ў поўным зборы насенных і страхавых фондаў неабходна зьвярнуць на максымальнае скарыстаньне насеньня, якое знаходзіцца як у калгасах, так, асабліва, ва ўласным карыстаньні самых калгасьнікаў. Калгасьнік павінен мобілізаваць усе свае ўласныя рэсурсы насеньня на дапамогу свайму калгасу, для поўнага абсемяненьня пасеўных плошчаў, прадугледжаных па пляну. Поруч з гэтым неабходна шырока разгарнуць сацыялістычную дапамогу аднаго калгасу другому, **скончыўшы ўсю гэтую работу, як паказана ў пастанове ЦК КП(б)Б—да 10-га сакавіка.**

Другім ня менш важным пытаньнем, ад якога залежыць своечасовы пачатак і пасьпяховае правядзеньне севу, зьяўляецца падрыхтоўка інвэнтара і цягавай сілы, а таксама забраніраваньне належнай колькасьці фуража на час веснавой сяўбы. Таму трэба паставіць работу ў калгасах так, каб увесь сельскагаспадарчы інвэнтар, неабходны для правядзеньня пасеўнай кампаніі быў своечасова адрамантаван, дагледзіць так каня, каб ён на час веснавой сяўбы змог бесьперабойна працаваць з максымальнай нагрузкай і быў лепш забясьпечан і лепшымі кармамі ў час самой сяўбы.

Ува ўсёй гэтай рабоце вясковыя паляўнічыя ячэйкі і кожны паляўнічы ў паасобку, якія складаюць пераважную большасьць членаў паляўнічай каапэрацыі Беларусі павінны адыграць немалаважную ролю. Кожны паляўнічы калгасьнік павінен быць першым па стварэньню насенных фондаў, адрамантаваньню інвэнтару і падрыхтоўцы коняй да вясеньняга севу. Кожны паляўнічы павінен быць ударнікам у выкананьні даручаемай яму работы калгасам.

Гарадзкія паляўнічыя сваім выездам непасрэдна ў вёску павінны наладзіць сталую сувязь з вясковымі арганізацыямі і непасрэдна з калгасамі, усямерна дапамагаючы калгасам у выкананьні пастановы ЦК УсеКП(б), як па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, так і ў правядзеньні веснавой сяўбы. Гэта асноўная нагрузка паляўнічага на вясновы час і яна з гонарам павіна быць выканана.

**П. Тамашэўскі.**

# ДЫРЭКТЫВЫ ДА СКЛАДАНЬНЯ ДРУГОГА ПЯЦІГАДОВАГА ПЛЯНУ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ СССР (1933—1937 г.г.)

*Рэзалюцыя XVII канфэрэнцыі ЎсеКП(б) па дакладах т.т. Молатава і Куйбышова.*

### 1. Пра вынікі першай пяцігодкі

1. Посьпехі барацьбы за выкананьне пяцігодкі за чатыры гады знайшлі сваё выяўленьне ў пераможным будаўніцтве сацыялізму ў СССР. Асновай гэтых посьпехаў сацыялізму зьяўляюцца палітыка індустрыялізацыі, уздым цяжкая індустрыі, разгортваньне вырабу сродкаў вытворчасьці. За мінулы пэрыяд наша цяжкая прамысловасьць пастаўлена цьвёрда на ногі і тым самым створана ўласная база для завяршэньня рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, база сацыялістычнай буйнай машыннай індустрыі. За апошнія гады разгарнулася будаўніцтва новых прадпрыемстваў і ўжо створаны прадпрыемствы, якія пакідаюць з-заду ўзровень эўропэйскай тэхнікі па некаторых галінах прамысловасьці. Адначасова з гэтым значна вырасла лёгкая прамысловасьць, а тэмп разгортваньня харчовай індустрыі намнога перавісіў ваданьні пяцігадовага пляну

2. У сельскай гаспадарцы адбыўся карэнны пералом, які выявіўся ў канчатковым павароце да сацыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы занялі сацыялістычныя формы (калгасы і саўгасы). Савецкі Саюз з краіны дробнага і найдрабнейшага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на аснове калектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага прыстасаваньня машыннай тэхнікі. Гэта перамога сацыялізму, якая вырашае самую важную і самую цяжкую задачу пралетарскай рэвалюцыі, мае сусьветна-гістарычнае значэньне.

3. Важнейшым вынікам сацыялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі зьяўляецца канчатковы падрыў карэньняў капіталізму ў вёсцы, які прадрашае поўную ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і поўнае зьнішчэньне клясаў. Завяршэньне пабудовы фундаманту сацыялізму ў СССР азначае, што ленінскае пытаньне „хто—каго“ вырашана супроць капіталізму ў карысьць сацыялізму цалкам і беспаваротна і ў горадзе і ў вёсцы.

4. У выніку ажыцьцяўленьня бальшавіцкіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва і ліквідацыі ў асноўным паразытычных клясаў, ужо ў першай пяцігодцы ліквідуюцца асновы і крыніцы эксплёатацыі чалавека чалавекам, расьце недасягальнымі для капіталістычных краін тэмпамі народны даход, зьнішчана беспрацоўе і галеча (паўпэрызм), зьнішчаюцца „нажніцы цэн“ і працілегласьць паміж горадам і вёскаю, расьце з году ў год дабрабыт і культурны ўзровень рабочых і працоўных сялян, зьніжаецца сьмяротнасьць і хутка ўзрастае народанасельніцтва СССР.

5. Усе гэтыя дасягненьні зьяўляюцца вынікам вялізарнага росту рэвалюцыйнай актыўнасьці шырачэзных мас рабочае клясы і працоўных сялян, вынікам вялізарнага ўздыму сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, нарэшце, вынікам ленінскай палітыкі нашай партыі, пасьлядоўна праводзячай разгорнутае па ўсім фронце наступленьне на капіталістычныя элемэнты.

6. Партыя дамаглася гэтых посьпехаў у барацьбе з буржуазнай тэорыяй трацкізму аб немагчымасьці пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне і няўхільнасьці рэстаўрацыі капіталізму,—трацкізму, які ператварыўся зараз у перадавы атрад буржуазнай контррэвалюцыі.

Партыя дамаглася посьпехаў у барацьбе з правым апартунізмам, лінія якога заключалася ня толькі ў зрыве палітыкі сацыялістычнага наступленьня, але і ў простай капітуляцыі перад кулацтвам і буржуазнымі элемэнтамі.

Толькі ў рашаючай барацьбе як з „левымі“, так і з правым апартунізмам і з прымірэнцтвам да іх, за генэральную лінію нашай партыі ЎсеКП(б) забясьпечыла стварэньне прадпасылак для выкананьня першай пяцігодкі за чатыры гады, разгром клясавага ворага і перамогу сацыялізму ў СССР.

### 2. Асноўныя задачы другой пяцігодкі.

Посьпехі ў ажыцьцяўленьні першай пяцігодкі падрыхтавалі базу для далейшага яшчэ больш магутнага росту сацыялізму ў СССР.

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) лічыць, што вялізарныя прыродныя багацьці краіны, бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, узрастаючая актыўнасьць шырокіх мас рабочых і калгасьнікаў і правільная лінія партыі цалкам забясьпечваюць такое разгортваньне вытворчых сіл сацыялістычнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы, на аснове якога будуць канчатКова ліквідаваны капіталістычныя элемэнты ў СССР. Канфэрэнцыя лічыць, што асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, спараджаючых клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавай сацыялістычнай грамады.

На аснове ліквідацыі паразытычных клясавых элемэнтаў і агульнага росту народнага даходу, які цалкам ідзе ў распараджэньне працоўных, павінен быць дасягнуты значна больш хуткі ўздым дабрабыту рабочых і сялянскіх мас і пры гэтым рашучае палепшаньне ўсёй жыльлёвай і камунальнай справы ў СССР. Канфэрэнцыя лічыць, што забесьпячэньне насельніцтва асноўнымі спажывецкімі таварамі і ў тым ліку прадметамі харчаваньня павінна да канца другой пяцігодкі павялічыцца ня менш, чым у два-тры разы супроць канца першай пяцігодкі.

1. Ажыцьцяўленьне гэтых задач магчыма толькі на базе разгорнутай тэхнічнай рэканструкцыі ўсяе

народнае гаспадаркі—прамысловасьці, транспарту, сельскай гаспадаркі.

Да пачатку першай пяцігодкі СССР у асноўным закончыў аднаўленчы пэрыяд і за апошнія гады ўступіў на шлях рэканструкцыі па радзе асноўных галін народнае гаспадаркі—у прыватнасьці, у мэталюргіі, машынабудаўніцтве, вугольнай прамысловасьці, не гаворачы ўжо аб праведзенай яшчэ раней рэканструкцыі ў галіне нафтавай прамысловасьці. Асобнае месца займае шырока разгорнутая рэканструкцыя сельскае гаспадаркі, якая хутка перабудоўваецца на новай тэхнічнай базе.

Дасягнутыя за першую пяцігодку посьпехі ў гэтай галіне зьяўляюцца, аднак, толькі пачаткам ажыцьцяўленьня тэхнічнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі. Між тым, пры наяўнасьці цяперашняга недастатковага да таго-ж застарэлага і зношанага абсталяваньня прамысловасьці і транспарту, не гаворачы ўжо пра сельскую гаспадарку без правядзеньня тэхнічнай рэканструкцыі ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі, без падвядзеньня пад іх навейшай машыннай тэхнікі,—нельга забясьпечыць бальшавіцкіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, якіх патрабуе ажыцьцяўленьне асноўных задач другога пяцігадовага пляну.

Таму XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) лічыць, што асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца завяршэньне рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнае гаспадаркі.

Вядучая роля ў завяршэньні тэхнічнай рэканструкцыі належыць савецкаму машына-будаўніцтву. Канфэрэнцыя лічыць неабходным павялічыць прадукцыю машына-будаўніцтва да канца пяцігодкі ня менш, чым у тры—тры з паловай разы супроць 1932 г. з тым, каб усе патрэбы рэканструкцыі прамысловасьці, транспарту, сувязі, сельскае гаспадаркі, гандлю і г. д. былі абслужаны ўнутраным вырабам найбольш дасканалых і сучасных машын.

Важнейшым элемэнтам тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі зьяўляецца стварэньне навейшай энэргетычнай базы, заснаванай на шырачэйшай электрыфікацыі прамысловасьці і транспарту і паступовым укараненьні электраэнэргіі ў сельскую гаспадарку, са скарыстаньнем вялізарных рэсурсаў воднай энэргіі, каменна-вугальных залежаў асноўных і мясцовых басэйнаў, мясцовых відаў апалу (торф, сланцы). Канфэрэнцыя лічыць бязумоўна неабходным дамагчыся ў 1937 годзе вытворства электраэнэргіі ня менш 100 міліярдаў квлт гадзін супроць 17 міліярдаў у 1932 г., здабычы вугалю ня менш, чымся ў 250 мільёнаў тон супроць 90 мільёнаў у 1932 г. і павялічэньне здабычы нафты ў 2½—3 разы.

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) лічыць, што ў адносінах важнейшых галін народнай гаспадаркі павінна быць у другім пяцігодзьдзі пастаўлены наступныя задачы:

а) па чорнай мэталюргіі выходзіць з выплаўкі ў 1937 г. ня менш 22 мільёнаў тон чыгуну з забесьпячэньнем неабходнага для машынабудаўніцтва выпуску якасных сталяй, для чаго правесьці поўную тэхнічную рэканструкцыю чорнай мэталюргіі з пабудовай новых заводаў, з устаноўкай новага магутнага абсталяваньня, з дакладнай падрыхтоўкай сыравіны, укараненьнем электрапрацэсаў і скарыстаньнем пабочных прадуктаў;

б) па каляровай мэталюргіі дасягнуць на працягу пяцігодзьдзя, скарыстоўваючы сэлекцыйную флётацыю (мэтады плаўкі распыленых руд), новыя віды сыравіны і г. д.—выплаўкі медзі, цынку, алюмінія і рэдкіх элемэнтаў у разьмерах, неабходных для поўнага задавальненьня патрэб краіны;

в) па хімічнай прамысловасьці поўнасьцю ліквідаваць адставаньне ад тэмпаў разьвіцьця народнай гаспадаркі ў цэлым. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на разьвіцьцё асноўнай хіміі, і, перш за ўсё, на выраб угнаеньняў, для чаго забясьпечыць пераабсталяваньне заводаў і ўсямернае разгортваньне новага будаўніцтва;

г) па чыгуначным транспарце правесьці карэнную рэканструкцыю чыгуначнага транспарту з разгортваньнем будаўніцтва новых чыгунак ня менш 25.000—30.000 *клм* з пабудовай некалькіх дзесяткаў новых мастоў праз галоўныя водныя шляхі, з увядзеньнем магутных паравозаў і вялікагрузных вагонаў, з разгортваньнем электрыфікацыі на радзе дарог, з шырокім увядзеньнем аўтасцэпкі, аўтаблякіроўкі, цеплавозаў. Разгортваньне чыгуначнага транспарту павінна забясьпечыць паскарэньне ўздыму гаспадаркі раду раёнаў і нацыянальных рэспублік, патрэбы якіх зусім нездавальняюча абслугоўваліся ў мінулым.

Па водным транспарце — правесьці рэканструкцыю морскага і рачнога флёту, асваеньне новых і палепшаньне існуючых водных шляхоў і будаўніцтва абсталяваных рачных і морскіх партоў.

Па дарожным і шасэйным будаўніцтве і аўтамабілізацыі забясьпечыць больш шпаркі тэмп разьвіцьця, чымся па іншых відах транспарту.

Паветраныя зносіны разьвіць па ўсіх асноўных напрамках, як адно з буйнейшых сродкаў сувязі з далёкімі раёнамі і з буйнымі прамысловымі цэнтрамі.

Вялікае разьвіцьцё надаць сувязі ўсіх відаў, асабліва радыё;

д) па лёгкай і харчовай прамысловасьці ўсямерна разгарнуць вытворства важнейшых галін на аснове стварэньня буйнай машыннай індустрыі і значнага пашырэньня с.-г. сыравіннай базы і забясьпечыць патраеньне норм душавога спажываньня, выходзячы пры гэтым з неабходнасьці ўзмоцненага разьвіцьця лёгкай і харчовай прамысловасьці ў новых раёнах, а імена ў раёнах вытворства с.-г. сыравіны.

Па лясной прамысловасьці, маючай выключнае значэньне для ўсяго будаўніцтва, забясьпечыць належныя тэмпы росту і правядзеньне мэханізацыі;

е) па дробнай саматужнай прамысловасьці Прамкаапэрацыі значна ўзмацніць выраб прадметаў шырокага спажываньня і разгортваньне промыслаў і вытворчасьці, абслугоўваючых сацыялістычную прамысловасьць і сельскую гаспадарку, на аснове поўнага каапэрацыйнага ахопу дробнай саматужнай прамысловасьці;

ж) па сельскай гаспадарцы ажыцьцявіць завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі з тым, каб машынна-трактарныя станцыі ахапілі ўсе калгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю сельскагаспадарчай вытворчасьці. Задачы арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і сацыялістычнага перавыхаваньня калгасных мас павінны стаць у цэнтры ўвагі і ў другой пяцігодцы.

Саўгасы павінны пашырыць сваю вытворчасьць па ўсіх лініях, у тым ліку па лініі тэхнічных культур і жывёлагадоўлі, і ўзмацніць сваю ролю ўзораў сацыялістычнай арганізацыі вытворчасьці і ўжываньня ў сельскай гаспадарцы высокай машыннай тэхнікі і ўсіх дасягненьняў сучаснай аграноміі і заатэхнікі.

У галіне жывёлагадоўлі ў другой пяцігодцы дабіцца такога павялічэньня статка і росту таварнай прадукцыі, якая адпавядала-б вырашэньню ў асноўным жывёлагадоўчай праблемы для СССР, як гэтага партыя дабілася ў першую пяцігодку ў адносінах да зярнёвай праблемы.

Па бавоўне і лёне забясьпечыць ня менш чымся падваеньня, а па цукровых буракох — патраеньня валавой прадукцыі.

Усе гэтыя мерапрыемствы па сельскай гаспадарцы патрабуюць далейшага і яшчэ больш хуткага ўздыму зярнёвай гаспадаркі з тым, каб зярнёвая прадукцыя ў канцы другой пяцігодкі дасягнула ня менш, чымся 1300 мільёнаў цэнтнэраў. Таму цэнтральнай задачай другой пяцігодкі павінна стаць рашучае падвышэньне ўраджайнасьці калгасных і саўгасных палёў і бальшавіцкае вырашэньне пытаньня барацьбы з засухай.

2. Ажыцьцяўленьне задач поўнай тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі непарыўна зьвязана са справай аўладаньня тэхнікай нашымі гаспадарчымі кадрамі, са стварэньнем шырокіх новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян і з рашучым уздымам культурнага ўзроўню ўсёй масы працоўных. Колькасны рост тэхнічных кадраў у Савецкім Саюзе ні ў якай меры не павінен зьмяншаць значэньня пытаньня аб іх навуковай кваліфікацыі, аб абавязковасьці адпаведнага засваеньня імі ўсіх асноўных дасягненьняў сусьветнай навукі і тэхнікі. Рашэньне праблемы тэхнічных кадраў ёсьць важнейшы элемэнт бальшавіцкага ажыцьцяўленьня задач культурнай рэвалюцыі і пасьпяховага будаўніцтва сацыялізму. Усямернае паскараньне ажыцьцяўленьня ўсеагульнай пісьменнасьці насельніцтва, хутчэйшае падняцьце ўсёй справы тэхнічнай адукацыі і ўзмоцненае матар'яльнае падтрыманьне дзяржавай разьвіцьця навукі ў СССР—гэткія бліжэйшыя задачы, прадстаўляючыя асноўную частку агульнай задачы пабудовы сацыялізму ў нашай краіне.

3. Для забесьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў уздыму ўсёй народнай гаспадаркі і лепшага задавоненьня запатрабаваньняў шырокіх мас гораду і вёскі ў адносінах тавараў шырокага спажываньня першараднае значэньне мае разгортваньня таваразвароту. Разгортваньне таваразвароту—перш за ўсё розьніцы — і правядзеньне прынцыпу гаспадарчага разьліку ва ўсёй гаспадарчай рабоце зьяўляецца важнейшым стымулам для выяўленьня маючыхся ў нашай гаспадарцы вялізарных і далёка яшчэ нескарыстаных унутраных рэзэрваў, дапамагаючых паскараньню росту сацыялістычнага накапленьня, і тым самым узмацняючых матар'яльную базу ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва. Разам з тым толькі на аснове разгортваньня таваразвароту магчыма забясьпечыць далейшае шпаркае палепшаньне снабжэньня рабочых і працоўных вёскі прамысловымі таварамі і прадуктамі сельскай гаспадаркі, для чаго, у сваю чаргу, неабходна ўсямернае пашырэньне сеткі магазынаў, крамаў і ўсёй гандлёвай сеткі, з правядзеньнем неабходнай тэхнічнай яе рэканструкцыі. Толькі на гэтай аснове магчыма падрыхтаваць адмену нарміраваньня водпуску тавараў і замяніць сыстэму цэнтралізаванага разьмеркаваньня разгорнутым савецкім гандлем.

Поруч з гэтым канфэрэнцыя падкрэсьлівае антыбальшавіцкі характар „левай“ фразы аб пераходзе да „прадуктаабмену“ і аб „адміраньні грошай“ ужо на данай стадыі будаўніцтва сацыялізму. Канфэрэнцыя падкрэсьлівае, з другога боку поўную несумяшчальнасьць з палітыкай партыі і інтарэсамі рабочай клясы буржуазна-нэпманскіх скажэньняў прынцыпу гаспадарчага разьліку, якія выяўляюцца ў разбазарваньні агульна-народных дзяржаўных рэсурсаў, і такім чынам, у зрыве ўстаноўленых гаспадарчых плянаў.

* * *

Новыя посьпехі сацыялізму рабочая кляса забясьпечыць толькі ў барацьбе з рэшткамі капіталізму, даючы бязьлітасны адпор супраціўленьню гінучых капіталістычных элемэнтаў, перагамаючы буржуазныя і дробна буржуазныя забабоны сярод працоўных і вядучы найстойлівую работу па сацыялістычным іх перавыхаваньні.

Гэта азначае, што і ў далейшым яшчэ нямінуча абвастрэньне клясавай барацьбы ў асобныя моманты і асабліва ў паасобных раёнах і на паасобных вучастках сацыялістычнай будоўлі, што разам з тым падкрэсьлівае нямінучасьць захаваньня, а ў некаторых выпадках і ўзмацненьня буржуазных уплываў на паасобныя пласты і групы працоўных, нямінучасьць яшчэ на працягу доўгага часу пранікненьне варожых пралетарыяту клясавых уплываў у асяродак рабочых і нават у партыю. Прымаючы гэта пад увагу перад партыяй стаіць задача ўмацаваньня пралетарскай дыктатуры і далейшага разгортваньня барацьбы з апартунізмам, і асабліва з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе.

Поўная калектывізацыя сельскай гаспадаркі, рост буйных дзяржаўных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і ўзброеньне саўгасаў і калгасаў перадавой машыннай тэхнікай, на справе пераўтвараючай с.-г. працу ў розднавіднасьць індустрыяльнай працы, і значнае ўзмацненьне транспартнай сувязі і таваразвароту паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай—ствараюць умовы для поўнага зьнішчэньня процілегласьці паміж горадам і вёскай.

Шпаркі рост сацыялістычнай гаспадаркі ў пэрыяд другой пяцігодкі ў нацыянальных рэспубліках і вобласьцях абумоўлівае зжываньне эканамічнай і культурнай адсталасьці нацыянальнасьцяў, атрыманай у спадчыну ад царскага каленіяльна-капіталістычнага рэжыму.

СССР у другой пяцігодцы высоўваецца на першае месца ў Эўропе ў тэхнічных адносінах. Разгорнутая ў першым пяцігодзьдзі работа па пераўтварэньні СССР з краіны, увозячай машыны і абсталяваньне, у краіну, самастойна выпрацоўваючую машыны і абсталяваньне, будзе завершана і канчаткова забясьпечыць за СССР эканамічную самастойнасьць, аберагаючую СССР ад пераўтварэньня яго ў прыдатак капіталістычнай сусьветнай гаспадаркі“ (XIV зьезд УсеКП(б).

Усё гэта стварае для СССР магчымасьць ужо ў другім пяцігодзьдзі дагнаць у тэхнічна-эканаміч-

ных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны па радзе гаспадарчых галін.

Глыбейшы крызіс у краінах капіталізму — вярнейшы доказ набліжэньня крушэньня капіталістычнага сьвету. Посьпехі сацыялізму ў СССР—лепшы доказ перавагі сацыялістычнай сыстэмы перад сыстэмай капіталістычнай.

У краінах капіталу — катастрафічнае падзеньне вытворчасьці, масавае згортваньне і спыненьне фабрык і заводаў, нячуванае зруйнаваньне вытворчых сіл. У СССР — вялізарны і няўхільны рост вытворчасьці, усё большае разгортваньне будаўніцтва фабрык, гіганцкіх заводаў, новых шахт і электрастанцый, недасяжны для капіталізму тэмп росту вытворчых сіл.

У капіталістычных дзяржавах—нячуванае беспрацоўе мільёнаў і крайняе зьбядненьне шматмільённых мас вёскі. У Савецкім Саюзе — поўная ліквідацыя беспрацоўя і зьнішчэньне жабрацтва, сямігадзінны рабочы дзень на фабрыках і заводах і няўхільны ўздым дабрабыту працоўных мас гораду і вёскі.

Усё гэта яшчэ больш робіць СССР цэнтрам прыцягваньня рабочых усіх краін і прыгнечаных усяго сьвету. Рэвалюцыянізуючае значэньне Савецкага Саюзу расьце, СССР мацнее, як база міжнароднага сацыялізму.

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) выказвае цьвёрдую ўпэўненасьць у тым, што асноўныя заданьні другой пяцігодкі будуць ня толькі выкананы, але і перавыкананы, што адпаведным чынам будзе забясьпечана сапраўднае канкрэтнае гаспадарчае кіраўніцтва і рашучая барацьба з бюракратызмам з боку ўсіх арганізацый рабочай клясы, што неабходна для ажыцьцяўленьня задач другой пяцігодкі, падняцьце прадукцыйнасьці працы будзе забясьпечана працоўнымі СССР, што рады ўдзельнікаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва будуць расьці з кожным днём.

Канфэрэнцыя моцна перакanana ў тым, што рабочая кляса і калгасныя масы знойдуць у асобе партыйных, камсамольскіх, прафэсыянальных і савецкіх арганізацый бальшавіцкіх арганізатараў і кіраўнікоў пераможнай барацьбы за ажыцьцяўленьне другой пяцігодкі.

Канфэрэнцыя лічыць неабходным зараз-жа разгарнуць работу партыйных, савецкіх, гаспадарчых, каапэрацыйных, прафэсыянальных і камсамольскіх арганізацый для хутчэйшай распрацоўкі другога пяцігадовага пляну з унясеньнем яго на зацьверджаньне чарговага зьезду партыі.

# ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ — АПЛОТ МІРА

Чатырнаццатая гадавіна Чырвонай арміі супадае з жэнэўскай канфэрэнцыяй па „разбраеньні“ і жорсткімі баямі пад Шанхаем, якія па сваёй упартасьці і кравапраліцьці жыва напамінаюць пра сусьветную імпэрыялістычную вайну.

Савецкая ўлада на працягу ўсяго свайго існаваньня, пачынаючы з ленінскага дэкрэту аб міры кастрычніцкіх дзён, пасьлядоўна праводзіла і праводзіць у сучасны момант **палітыку міра.**

Неаднаразавыя прапановы аб поўным ці хоць-бы частковым разбраеньні, якія савецкая ўлада рабіла буржуазным урадам, прапановы, якія яшчэ раз пацьвердзіў і паўтарыў на жэнэўскай канфэрэнцыі тав. Літвінаў і якія **сыстэматычна адхіляюцца**, зьяўляюцца наглядным доказам нашай мірнай палітыкі. Ня менш яркім яе пацьверджаньнем зьяўляюцца пакты аб ненападзе, якія мы заключылі і заключаем.

Такія суседнія з намі краіны, як Турцыя, Персія, Кітай, якія былі на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў аб'ектам сыстэматычнай захопніцкай палітыкі царскага ўраду, асабліва ярка адчуваюць на сваім прыкладзе ўсю глыбіню бяздоньня, што аддзяляе нашу замежную палітыку ад замежнай палітыкі царскай і буржуазнай Расіі.

Мы безагаворачна прызналі незалежнасьць Фінляндыі, Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Літвы і прыклалі ўсе сілы, каб устанавіць моцныя мірныя адносіны з іх урадамі. Ці магла ісьці гутарка пра такое прызнаньне з боку любога расійскага буржуазнага ўраду,—гэта ў свой час лепш за ўсё паказала палітыка Дзянікіна і Калчака. А Калчак-жа быў прызнан Антантай усерасійскім кіраўніком.

**Савецкі ўрад ня шукае і не дабіваецца ніякіх тэрытарыяльных набыткаў.** Тая тэрыторыя, якая знаходзіцца ў нашых руках, зусім дастаткова для пасьпяховага будаўніцтва сацыялізму. Магутна растучая савецкая прамысловасьць мае ў сваім распараджэньні невычарпальныя рэсурсы ўнутранага рынку, які абапіраецца на шпаркі рост патрэбнасьцяй працоўных мас Савецкага саюзу.

Мы вывозім свае тавары за мяжу не таму, што ня можам збыць іх унутры краіны (як буржуазныя краіны), а таму, што нам неабходны сродкі для закупкі прамысловага абсталяваньня. **Савецкая ўлада не пагражае нікому ні ў ваенных, ні ў эканамічных адносінах. Яе замежнай палітыкай была і будзе палітыка міра і згоды.**

Фактычная вайна паміж Японіяй і Кітаем, што адбываецца на Далёкім Усходзе, ужо прывяла да акупацыі асноўных цэнтраў Паўночнай Манчжурыі (Цыцыкар, Харбін) японскімі войскамі. Хто дазволіць сабе сумнявацца ў тым, што для царскага ўраду, які прасьледваў імпэрыялістычныя мэты, такая акупацыя была-б зусім дастатковым аснаваньнем для вайны? А савецкі ўрад прапанаваў японскаму ўраду заключыць пакт аб ненападзе, што ён прапанаваў і другім урадам. І калі гэта прапанова да гэтага часу не рэалізавана, дык не па віне савецкага ўраду.

Ніякія правакацыі дагэтуль не маглі адхіліць нас ад цьвёрдай і пасьлядоўнай палітыкі міру. Але мы вымушаны жыць у капіталістычным акружэньні, у абставінах жорсткага эканамічнага крызісу, з якога буржуазія шукае выхаду ў вайне. Падзеі на Далёкім Усходзе наглядна паказваюць, як лёгка выбухае вайна, ня гледзячы на ўсе пакты Келлёга, як моцная краіна нападае на больш слабую сярод „белага дня“ бяз усякага абвяшчэньні вайны і пры фактычным падтрыманьні другіх імпэрыялістычных краін.

Сярод імпэрыялістаў Захаду і Ўсходу далёка яшчэ ня кінуты пляны антысавецкай інтэрвенцыі. Белагвардзейская прэса адкрыта абгаварвае пытаньне аб стварэньні „буфернай“ дзяржавы на Далёкім Усходзе пры падтрыманьні замежнага імпэрыялізму.

Імпэрыялізм мае свае моцныя традыцыі таксама, як мае свае моцныя традыцыі яго сацыял-фашысцкая агентура II інтэрнацыяналу. І працоўныя нашай краіны добра памятаюць, як імпэрыялістычныя арміі спрабавалі ў свой час гаспадарыць на тэрыторыі нашай краіны з нікольні ня меншай нахабнасьцю, чым яны гэта робяць зараз у Шанхаі і Манчжурыі.

Мы добра памятаем, як войскі **германскага імпэрыялізму** пры падтрыманьні германскай сацыялдэмакратыі акупавалі Украіну і як потым ім на зьмену прышлі з благаславеньнем меншавікоў і ўсіх наогул белагвардзейцаў войскі **францускага імпэрыялізму.** Ня менш добра памятаем мы акупацыю Архангельску і Мурманску **брытанскімі імпэрыялістамі.** А ці-ж Далёкі Ўсход на працягу рада год ня быў акупаван **японскімі войскамі?**—Бо толькі ў 1922 годзе гэтыя войскі ўшлі з Уладывастока і ў 1924 годзе з Паўночнага Сахаліна.

І ці-ж Савецкая Бесарабія не акупуецца дагэтуль **Румыніяй** наперакор усякаму „міжнароднаму“ праву, але затое з санкцыі вялікіх імпэрыялістычных дзяржаў, перш за ўсё Францыі і Англіі?

Ці-ж у 1920 годзе **буржуазная Польшча,** спрабаваўшая пры ўхваленьні польскіх „сацыялістаў“ захапіць Украіну і Беларусь, ня сустрэла поўнае падтрыманьне зноў у першую чаргу з боку Францыі?

Кожны рабочы, кожны працоўны нашай краіны добра ведае, што **толькі стварыўшы моцны дзяржаўны апарат, стварыўшы моцную Чырвоную армію, савецкая ўлада здолела дабіцца вызваленьня сваёй тэрыторыі ня толькі ад белагвардзейцаў, але і ад іх імпэрыялістычных саюзьнікаў.**

І кожнаму рабочаму, кожнаму працоўнаму Савецкай краіны зусім зразумела цяпер, што моцная Чырвоная армія, якая атрымлівае сваю магутнасьць у растучай сацыялістычнай гаспадарцы, апіраецца на бязьмежную любоў і падтрымку працоўных мас Савецкага саюзу, на растучыя сымпатыі да яго сярод рабочых і працоўных мас усяго сьвету, зьяўляецца зараз надзейнай гарантыяй бясьпекі і недатыкальнасьці да нашай краіны, будуючай сацыялізм.

Узмацняючы свае арміі, імпэрыялістычныя краіны рыхтуюць новыя заваёўчыя войны, захопы чужых тэрыторый, прыгнечаньне чужых народаў і краін.

Умацоўваючы сваю Чырвоную армію, савецкая ўлада ўмацоўвае справу міру, забясьпечвае пераможнае сацыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне, паказваючай шлях да вызваленьня працоўных мас усяго сьвету.

Наша Чырвоная армія—плоць ад плоці, косьць ад косьці працоўных Савецкага саюзу. Магутны рост савецкай прамысловасьці, забясьпечаньне эканамічнай незалежнасьці нашай краіны, рост рабочай клясы, суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя кулацтва як клясы, падняцьце эканамічнага дабрабыту шырокіх пралетарскіх і працоўных мас, сацыялістычнае перавыхаваньне калгасьнікаў азначаюць **умацаваньне міжнароднага значэньня Савецкага саюза, азначаюць умацаваньне магутнасьці нашай Чырвонай арміі.**

Капіталістычныя краіны перажываюць пэрыяд эканамічнага развалу. Але ёсьць адна галіна прамысловасьці, перажываючая бурны росквіт, асабліва ўзмацніўшаяся з часу далёкаўсходніх падзей,—гэта **ваенная прамысловасьць.**

Манапалістычны, загніваючы капіталізм ужо даўно затрымлівае разьвіцьцё прамысловай тэхнікі, перашкаджае ўвядзеньню новых машын, душыць вынаходніцтва. Але ёсьць адна галіна тэхнікі, якая працягвае разьвівацца бурнымі, імпэтнымі, усё ўзрастаючымі тэмпамі,—гэта **тэхніка вайны, тэхніка прыладаў зьнішчэньня.** Гэта тэхніка зрабіла буйнейшы крок з часу сусьветнай вайны. Ваенная і морская справа перажываюць зараз сапраўдную тэхнічную рэвалюцыю. Яна характарызуецца вялізарным ростам агнявой сілы пяхоты (дальнабойнасьць, хуткастрэльнасьць гармат, руйнуючая сіла знарадаў), шырачайшым ужываньнем аўтамабіля і трактара, далейшымі ўдасканаленьнямі авіяцыі і хіміі, пакідаючымі далёка ззаду тэхніку сусьветнай вайны.

У такіх умовах перад нашай Чырвонай арміяй з асаблівай вастрынёй становіцца задача **аўладаньня навейшай ваеннай тэхнікай, асваеньня яе апошніх дасягненьняў, падняцьця баявой кваліфікацыі сваіх кадраў і мас.**

Ніводная дзяржава ў сьвеце ня мае такіх вялізарных неабароненых меж, як наша краіна. У суадносінах паміж велічынёй тэрыторыі і колькасьцю насельніцтва, з аднаго боку, лікам узброеных сіл— з другога, СССР знаходзіцца далёка ззаду капіталістычных краін. Тым больш увагі павінны мы удзяляць якасьці нашай узброенай сілы, ваеннай падрыхтоўцы насельніцтва, ажыцьцяўляемай Асоавіяхімам.

Сур'ёзнае значэньне ў цяперашніх умовах морскіх узброеньняў, рэканструкцыі ўсіх морскіх сіл імпэрыялістычных дзяржаў набывае ўмацаваньне **Чырвонага флёту.**

Але сучасная вайна—гэта ня толькі вайна машын. Гэта перш за ўсё—вайна жывых людзей, яна робіцца вайной клясаў ці зьяўляецца ёю з самага пачатку. Палітычнае выхаваньне чырвонаармейскіх мас, умацаваньне партыйнай работы ў Чырвонай арміі—важнейшая ўмова яе баявой магутнасьці.

Партыйная арганізацыя Чырвонай арміі—адзін з лепшых атрадаў нашай ленінскай партыі. Партыйная арганізацыя—касьцяк Чырвонай арміі, правадыром якой зьяўляецца камуністычная партыя, яе ленінскі ЦК на чале з тав. Сталіным.

Партыйная арганізацыя Чырвонай арміі правяла бліскучую барацьбу супроць трацкізму, спрабаваўшага супроцьпаставіць Чырвоную армію партыі і яе кіраўніцтву,—трацкізма, які ператварыўся зараз у перадавы атрад контррэвалюцыйнай буржуазіі.

Яна правяла бліскучую барацьбу супроць правага апартунізму—кулацкай агентуры ў радох партыі.

Партыйная арганізацыя Чырвонай арміі і далей будзе весьці рашучую барацьбу за генэральную лінію партыі на два франты, супроць правага апартунізму як галоўнай небясьпекі.

Партыйная арганізацыя Чырвонай арміі будзе весьці рашучую, бальшавіцкую барацьбу супроць спэцыфічных форм правага і „левага“ апартунізму ў армейскіх абставінах, супроць праваапартунічнай руціны, недаацэнкі навейшых дасягненьняў ваеннай тэхнікі, супроць праваапартуністычнага адставаньня ад тэмпаў аўладаньня тэхнікай, супроць паражэнцкіх і капітулянскіх тэорый, з аднаго боку, супроць „лявацкіх“ заскокаў, „лявацкага“ пераскакваньня праз цяжкасьці, найшкаднейшай „лявацкай“ псыхалёгіі „шапкамі закідаем“—з другога.

**Дзень Чырвонай арміі—сьвята працоўных усёй нашай краіны,** бо Чырвоная армія зьяўляецца абаронцам іх вольнай сацыялістычнай працы.

**(„Праўда“ ад 23-II—32 г.).**

# Конкурс нізавога друку—справа ўсёй КП(б)Б

Цэнтральная задача калгаснага будаўніцтва—арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Бальшавіцкая барацьба за моцны калгас—гэта ў першую чаргу барацьба за ажыцьцяўленьне 6 указаньняў тав. Сталіна. Вузлавыя пытаньні арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў: правільная арганізацыя працы на аснове сталых вытворчых брыгад і сапраўднай зьдзельшчыны з улікам працадзён, узьняцьце вытворчасьці працы, барацьба за аўладаньне тэхнікай, за высокі ўраджай, за высокую прадукцыйнасьць калгасных таварных фэрм, сацыялістычнае выхоўваньне калгасьнікаў, поўная і сваячасовая здача калгасамі пралетарскай дзяржаве прадукцыі, рашучы адпор спажывецка-рвацкім тэндэнцыям і кулацкай агітацыі.

Цэнтральны орган партыі—„Правда“ ўлічваючы вялізарнае значэньне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, як сродка новага калгаснага прыліва, завяршэньня ва ўстаноўленыя ЦК УсеКП(б) тэрміны суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы,—аб'явіла ўсесаюзны конкурс нізавога друку, конкурс насьценных газэт калгасаў, саўгасаў і МТС на лепшую работу па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, па лепшым выкананьні загатовак.

ЦК КП(б)Б у пастанове аб конкурсе „Правды“ падкрэсьліў, што конкурс „Правды“—**справа ўсёй КП(б)Б, усёй пралетарскай грамадзкасьці БССР.**

XIV зьезд КП(б)Б устанавіў два пераходных сьцягі імя XIV усебеларускага зьезду партыі для ўзорных у справе правядзеньня конкурсу „Правды“, ячэек, райкомаў партыі і рэдакцый цэнтральных раённых і нізавых газэт і адзначыў, што: **„работа па ўзмацненьні сыстэматычнага партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам і рабселькорамі зьяўляецца адным з адказьнейшых вучасткаў агульна-партыйнай работы“.**

Друк БССР паказаў, як ацэньвае „Правда“ „ўзоры бальшавіцкага правядзеньня ўсесаюзнага конкурсу“.

**Падрыхтоўка да 3-й бальшавіцкай вясны**—адна з адказьнейшых задач арганізацыйна-гаспадарчага умацаваньня калгасаў. Змагаючыся за посьпехі 3-й бальшавіцкай сяўбы, разгортваючы сацспаборніцтва з Украінай, Паўночным Каўказам, друк БССР у аснову сваёй работы павінен пакласьці рашэньні XIV зьезду КП(б)Б, XVII усесаюзнай партканфэрэнцыі і пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б „аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў“.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове „аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў“ **указвае ўсім партыйным арганізацыям, што „задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў зьяўляецца ў цяперашні час, перш за ўсё, задачай разьвіцьця і ўмацаваньня арцельнай формы калгасаў, пры гэтым ЦК выходзіць з таго, што спробы штучнага паскарэньня пераходу ад арцельнай формы калгасу да камуны на цяперашняй стадыі разьвіцьця калгасаў зьяўляюцца сур'ёзнай небясьпекай. Супроць гэтай небясьпекі пераскакваньня праз форму сельскагаспадарчай арцелі, якая яшчэ не разгорнута выстарчальна і не замацавана ЦК папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі“** (з пастановы ЦК УсеКП(б).

Асноўным зьвяном арганізацыі працы ў калгасах, за якое трэба ўхапіцца, каб выцягнуць усю справу арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў,— **зьяўляецца сталая вытворчая калгасная брыгада,** якая прымацоўваецца на ўвесь гаспадарчы год да пэўнага вучастку зямлі, якой даецца пэўная колькасьць інвэнтару і цягавай сілы.

**„Асуджаючы наяўную ў радзе месц практыку арганізацыі брыгад па тэратарыяльным прынцыпу (так званых брыгад-дворак) і брыгад з непастаянным складам, ЦК прапануе ліквідаваць такія брыгады і на аснове гадавога вытворчага пляну калгасаў і ўліку патрэбнасьці ў рабочай сіле арганізаваць ва ўсіх калгасах брыгады выключна па вытворчым прынцыпе з пастаянным складам людзей з тым, каб як правіла, такія брыгады выконвалі ўсе асноўныя сельскагаспадарчыя работы на працягу ўсяго году на пэўных вучастках. Стварэньне такіх брыгад не павінна аднак выключаць магчымасьці замацаваньня за брыгадамі вучасткаў (ад залежнасьці ад мясцовых умоў, разьмеру калгасу і яго арганізаванасьці), не на ўвесь сельскагаспадарчы сэзон, а толькі на асобныя пэрыяды сельскагаспадарчых работ (ворыва, уборка)“.**

Нізавы друк галоўны свой упор павінен зрабіць на арганізацыю сталых вытворчых брыгад, як гэта ўказвае пастанова ЦК, на падбор вытрыманых брыгадзіраў з лепшых ударнікаў, на падрыхтоўку брыгадзірам брыгады да веснавой сяўбы. Арганізацыя сталых вытворчых брыгад наносіць руйнуючы ўдар па абязьлічцы ў барацьбе за ўраджай, кладзе канец зьдзекваньню над зямлёй. Калі ў калгасе будуць працаваць сталыя вытворчыя брыгады на пэўных вучастках зямлі на працягу ўсяго гаспадарчага году, тады не на каго будзе ўзвальваць віну за нізкі ўраджай. **За ўраджай нясе адказнасьць—брыгада.**

Барацьба за якасныя паказчыкі ў сацыялістычнай сельскай гаспадарцы, барацьба за высокі ўраджай, за высокую прадукцыйнасьць таварных фэрм—цэнтральная задача 4-га заключнага году пяцігодкі, цэнтральная задача 2-й пяцігодкі.

Рабселькоры павінны стаць у першыя рады актыўных змагароў за высокі ўраджай. Нізавы друк і рабселькоры павінны паказаць, што яны ўмеюць змагацца за стварэньне харчовай і сыравай базы для 2-й пяцігодкі, якая ставіць задачы сусьветнага гістарычнага значэньня, якая забясьпечыць пабудову бясклясавага грамадзтва і высуне Савецкі саюз на першае месца ў Эўропе ў тэхнічных адносінах.

Зараз у цэнтры ўвагі партыі, усіх савецкіх і прафэсіянальных арганізацый, у цэнтры ўвагі ўсяго друку стаіць пытаньне падрыхтоўкі і правядзеньня **1-га ўсебеларускага агратэхзьезду, які зьяўляецца адным з важнейшых мерапрыемстваў па разгортваньні масавага ўсебеларускага агразаатэхпаходу.** Усебеларускі агразаатэхпаход зьяўляецца працягам рэйду органаў КК РСІ і друку па праверцы падрыхтаванасьці да веснавой сяўбы. Рэйд праверкі падрыхтаванасьці да сяўбы ў радзе месц **(Карма, Талачыно, Бярэзіна)** быў праведзен з удзелам шырокіх мас і даў рост рабселькораў, насьценгазэт, рост ударнікаў друку. Паасобныя насьценгазэты (**„За сацыялістычную сьвінагадоўлю“** — калгас **„Спартак“** Кармянскага раёну) паказалі прыклады

ініцыятыўнасьці, ужылі рад новых мэтадаў работы **(сыгнальныя лісткі і „ордэна“ прагульшчыкаў).**

Усебеларускі агразаатэхпаход трэба ператварыць у паход шырокіх мас калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і МТС, беднякоў і серадкякоў-аднаасобнікаў, агратэхпэрсаналу, навукова-дасьледчых інстытутаў— за высокі ўраджай, на аснове шырокага скарыстаньня агразаатэхнікі, на аснове максымальнага ўжываньня ў сацыялістычнай сельскай гаспадарцы навуковых ведаў.

Нізавы друк і рабселькоры павінны зразумець, што ўсебеларускі агразаатэхпаход зьяўляецца паходам за пасьпяховае правядзеньне веснавой сельскагаспадарчай кампаніі, **што ён зьяўляецца паходам за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.**

Адгэтуль задача для ўсіх насьценгазэт, для кожнага рабселькора: безадкладна ўключыцца ў агразаатэхпаход, праявіць сябе актыўным змагаром за яго пасьпяховае правядзеньне.

Рашаючыя пытаньні пасьпяховага правядзеньня 3-й бальшавіцкай сяўбы—**збор і засыпка насенных фондаў да 15-га сакавіка, безадкладны рамонт трактароў і сельскагаспадарчага інвэнтару.** Насьценгазэты калгасаў, саўгасаў і МТС павінны паказаць лепшыя брыгады, лепшых брыгадзіраў, якія па ўдарнаму вырашаюць гэтыя задачы на аснове ажыцьцяўленьня шасьці ўказаньняў тав. Сталіна, павінны рашуча біцца па ўсіх праявах правага апартунізму, даваць рашучы адпор кулацкай агітацыі, арганізоўваць буксір перадавікоў над адстаючымі, перадаваць вопыт лепшых брыгад, паказаць як брыгады змагаюцца за ауладаньне агразаатэхнікай, як яны ўжываюць яе ў сваёй рабоце, як яны замагаюцца за высокі ўраджай, за высокую прадукцыйнасьць таварна-калгасных фэрм.

Змагаючыся за якасныя паказчыкі, за ўзрост прадукцыйнасьці сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, **нізавы друк і рабселькоры павінны быць арганізатарамі своечасовай і поўнай здачы калгасамі дзяржаве прадукцыі.**

Конкурс „Праўды“ працягнут на ўвесь пэрыяд веснавой сяўбы.

Задача партыйных арганізацый па - бальшавіцку стаць на чале конкурсу „Праўды“, **разгарнуць сацспаборніцтва нізавога друку, раённых і цэнтральных газэт за ганаровы сьцяг імя XIV усебеларускага зьезду партыі,** забясьпечыць узьняцьце на яшчэ большую ступень работы нізавога друку па правядзеньні ўсесаюзнага конкурсу „Праўды“.

**Ул. Дуброўскі.**

## НЯМА ІНІЦЫЯТЫВЫ

Лепельскае раённае т-ва зусім не заахвочана барацьбой з драпежнікамі паляўнічай і сельскай гаспадаркі. Несінская ячэйка паляўнічых была ўзялася крыху за гэтую справу. Паляўнічыя нават рашылі мець свае сьцяжкі для аблаў на ваўкоў. Але ў іх не хапіла грошай зрабіць іх. Ячэйка зьвярнулася за дапамогай у райтаварыства. Там рукой махнулі. Сьцяжкі так і засталіся ня скончанымі.

А нечага „абіжацца“ Лепельскім паляўнічым, каб у іх раёне ваўкоў ня было. Іх колькі хочаце ёсьць. Бадзяюцца яны цэлымі стаямі і шмат зарэзана жывёлы. Пляны нарыхтовак т-вам ня выкананы, кантрактацыя не праведзена. Ініцыятывы т-ва па ўсіх галінах работы ня відаць.

Раённым арганізацыям і Белкахотсаюзу трэба пацікавіцца работай Лепельскага раённага т-ва.

**Палясоўшчык.**



Брыгада паляўнічых ідзе на паляваньне (Астрашыцка-Гарадзецкі р.).

# За дадатковыя рэсурсы харчаваньня

Цяжка вытлумачыць, чаму наша паляўнічая гаспадарка выпала з пад увагі савецкай грамадзкасьці. За гады рэвалюцыі, яна дамаглася многіх бясспрэчных дасягненьняў (у прыватнасьці, у каапэраваньні і калектывізацыі паляўнічых). Але, ня гледзячы на гэта, яна як і раней стаіць на вельмі нізкай ступені разьвіцьця. Ня маючы цьвёрдай навуковай базы, з абмяжаванай колькасьцю лова — яна патрабуе самай рашучай грамадзкай дапамогі. Гэта дапамога тым больш неабходна, што **ў нашых лясох, балотах і вазёрах захоўваюцца вялікія магчымасьці для мабілізацыі дадатковых прадуктовых рэсурсаў.**

У іх ліку ёсьць так званыя другарадныя мясныя прадукты: мяса зайца, аленя, дзікіх коз, усялякай дзічыны ад гаршнэпа да глушца.

Але ніхто, як трэба, загатоўкамі гэтага высокаякаснага мяса не займаецца. Апошнія даныя Наркамснабу гавораць аб тым, што на 1 студзеня плян загатовак чацьвертага кварталу быў выкананы па зайцу—на 11 проц.

У „дзікага“ мяса няма гаспадара. Чым-колечы займаецца, між іншым, саюзмяса (якое, дарэчы, да гэтага часу не арганізавала папярэдніх забойных пунктаў), чым-колечы займаецца ў тым ліку Саюзптушкапрадукт. Крыху цікавіцца гэтай справай Наркамснаб, у якім усімі пытаньнямі гэтых мясазагатовак займаецца толькі адзін работнік.

Яшчэ горш стаіць справа з пярнатай дзічынай. Плян загатовак дзічыны ў мінулым годзе быў сарваны, а зараз загатавіцелі сваёй бязьдзейнасьцю даюць усе падставы заключаць, што гэта здарыцца і ў бягучым годзе.

Тут, зразумела, вялікую ролю адыгрывае і **выключная адсталасьць нашай паляўнічай гаспадаркі.** Пры правільнай, **плянавай** эксплёатацыі нашай вялізарнай паляўнічай гаспадаркі мы можам у некалькі разоў павялічыць здабычу дзічыны.

Возьмем пытаньне аб пралётных шляхох два разы ў год—вясною і ўвосень—дзесяткі мільёнаў птушак пралятаюць з поўдня на поўнач і назад. Пералёт ідзе па пэўна вызначаных шляхох. Прылятаючы вясною, птушкі на поўначы робяць гнёзды і размнажаюцца. Пасьля, з наступленьнем холаду, зноў ляцяць на поўдзень. Калі паставіць на пралётных шляхох „паляўнічыя плацiны“ — імі можна рэзка зьмяніць забесьпячэньне гораду птушыным мясам.

Трэба тэрмінова кінуць навуковыя сілы для вывучэньня пралётных шляхоў птушак. Ня шкодзіць напомніць, што навуковая работа ў паляўнічай гаспадарцы толькі яшчэ становіцца на ногі. Толькі нядаўна Ўсекахотсаюзу былі пераданы 7 дасьледчых станцый і Інстытут. Дачыненьне да гэтай работы лепш усяго характарызуе той факт, што грошы на ўтрыманьне інстытуту і станцый ня далі.

— Хіба вы сур'ёзнай справай займаецеся? Сьляды птушак вывучаеце?!

Вядома, што ў летні час (па раду відаў і зімой) на нашых паўночных акраінах зьбіраецца вялікая колькасьць пярнатых. Эксплёатацыя гэтых багацьцяў (асабліва ва ўмовах паўночнага бездарожжа)— справа надзвычайна цяжкая. Таму ў першую чаргу паўстае пытаньне аб пабудове тут кансэрвных прадпрыемстваў лёгкага прымітыўнага тыпу. Гутаркі аб гэтым ідуць даўно, але да гэтага часу ніадна арганізацыя (у тым ліку і Ўсекахотсаюз) практычна да справы не прыступіла.

Вялікі рэзэрв ствараюць сабою месцы, дзе зімуюць птушкі (Касьпійскае мора, Аральскае, Паўднёвыя стэпы і інш.). Пры ўмовах плянавага адстрэлу гэтыя раёны зьявяцца невычарпальнымі мяснымі крыніцамі. Тут можна прывесьці цікавы прыклад. Вельмі шмат птушак зімуе на поўдні Касьпійскага мора. Частка „зімоўяў“ знаходзіцца ў межах СССР і частка ў Пэрсіі. Некалькі замежных фірмаў арэндуюць у Пэрсіі паветра і паверхню вады, зьнімаючы літаральна эшалёны „ўраджаю“. У нас-жа паляваньне па зімоўках птушак ня выходзіць за кустарныя рамкі.

Вядомы знаўца паляваньня В. Н. Сацінскі лічыць паляваньне па зімоўках адным з самых рэзультатыўных для пасіленьня рабочага забесьпячэньня. Ён зусім правільна падкрэсьлівае, што арганізацыя плянавага промыслу па зімоўках нямысьліма бяз шырокай сеткі засолачных і капцільных пунктаў. Інакш—30—40 проц. дзікай птушкі будзе бескарысна гнісьці, як гэта ня рэдка мае месца ў цэнтральнай паласе краіны.

**А. Бронтман.**

(„Праўда“ ад 15-II—32 г. № 45).



Сустрэліся (Паляўнічыя Астр.-Гар. р.)

# Вясна ў паляўнічай гаспадарцы



Арол беркут.

Прадукты паляваньня, як гэта ўсім вядома, складаюць даволі значны артыкул у дзяржаўнай гаспадарцы. Не падлягае сумненьню, што паляўнічую гаспадарку, як і ўсякую іншую трэба весьці плянава, утвараючы ў ёй тыя або іншыя мерапрыемствы па падняцьцю яе прадукцыйнасьці. Асабліва важнай у гэтым напрамку зьяўляецца работа паляўнічай каапэрацыі ўвесну.

Нажаль, трэба канстантаваць, што як раз гэта „пасеўная“ кампанія ў паляўнічай гаспадарцы на працягу апошніх часоў амаль не праводзілася. А між тым нельга сказаць, каб паляўнічая маса была ня здольна праводзіць тыя ці іншыя мерапрыемствы. Мы ня будзем абараняць той пункт погляду, што веснавое паляваньне нібы зьяўляецца карысным для паляўнічай гаспадаркі, асабліва зараз пры яшчэ неарганізаванай, не плянавай паляўнічай гаспадарцы. Мы нават скажам, што вясновае паляваньне шкодзіць гаспадарцы, але трэба так паставіць працу раённых т-ваў і ячэек паляўнічых, каб вясна выкарыстоўвалася для падняцьця ўраджайнасьці паляўнічых угодзьдзяў, каб вясной утваралася паляваньне на шкодных драпежнікаў, чым можна, хоць часткова, прынесьці карысьць паляўнічай гаспадарцы.

Асабліва значнага эфэкту можна дасягнуць у сэнсе барацьбы з браканьерствам. Вядома, мы да ліку браканьераў адносім ня толькі тых, што палююць бяз білетаў—гэта яшчэ паўбяды! Мы лічым браканьерамі ўсіх тых, хто парушае правілы, тэрміны і спосабы паляваньня. Паляўнічы з білетам, але выйшаўшы ня ў тэрмін на паляваньне—ёсьць браканьер. Паляўнічы, які вылаўлівае малых зьвяроў і птушак, выбірае яйкі, разбурае гнёзды, забівае карысных птушак—ёсьць браканьер, не гаворачы ўжо аб тых, хто выйдзе на палаваньне, калі яно будзе забаронена. А нельга сказаць, каб такіх жываглотаў у нашай каапэрацыі ня было. **З імі і належыць павесьці самую рашучую барацьбу, аж да аддачы пад суд. Гэтым і павінны заняцца ячэйкі паляўнічых у вясну.**

Другім важным мерапрыемствам, якое павінна быць дадзена ў якасьці заданьня кожнаму паляўнічаму ў гэтую вясну ячэйкай ці т-вам, гэта барацьба ў некаторых мясцох з традыцыйным яшчэ зьявішчам—зборам яек дзікіх качак. Паляўнічы, які жыве ў сельскай мясцовасьці і ходзіць вясной па паляўнічых угодзьдзях, абавязан змагацца самым рашучым чынам з гэтым зьявішчам. Вядома, тут мала таго, што паляўнічы будзе змагацца, тут яшчэ неабходна было-б Белкахотсаюзу паклапаціцца выпусьціць адпаведныя плякаты, арганізаваць радыёгазэту ці што іншае, наогул павесьці культасьветную працу, якая растлумачыла б усю тую шкоду, што прыносіць выбар яек дзікіх птушак паляўнічай і сельскай гаспадарцы.

Трэцяе мерапрыемства, на якое павінна быць накіравана ўвага паляўнічага ў гэтую вясну, гэта зьнішчэньне шкодных драпежнікаў. Самымі галоўнымі з іх зьяўляюцца бадзячыя сабакі ды каты. Ня будзем пералічваць, тых шкод, якія прыносяць гэтыя драпежнікі паляўнічай гаспадарцы, бо аб гэтым ужо не адзін раз гаварылася вельмі падрабязна на старонках нашае часопісі. Але скажам толькі, што гэтыя драпежнікі, зьяўляючыся плодам разьвіцьця хутарскай сыстэмы сельскае гаспадаркі ў мінуўшчыне, прыносяць столькі шкоды, што наўрад



Цяцаранятнік.



Перапялятнік у палёце.

ці можна іх раўняць з якімі-небудзь іншымі з гэтай катэгорыі жывёл. Бегаючы вольна па паляўнічых угодзьдзях навокал хутароў, пасёлкаў і вёсак, каб знайсьці сабе корм, яны пад час апусташаюць так паляўнічыя ўгодзьдзі, што пры адчыненьні асеньняга паляваньня звычайна ня знойдзеш ніводнага вывадка цецярука, качкі ці зайца. Ня меншую шкоду прыносяць і бадзячыя каты, бо на раду са зьнішчэньнем мышэй, яны шмат паядаюць і розных птушак.

Трэба сказаць, што для зьнішчэньня гэтых двух відаў драпежнікаў ёсьць адпаведная глеба. Перш на-перш, згодна інструкцыі Наркамзему і НКЮ, апублікаванай у Бюлетэні СНК № 17 за 1927 г., усе сабакі (за выключэньнем пародных паляўнічых і службовых), якія бадзяюцца па паляўнічых угодзьдзях (хаця-б сабе і з ашэйнікамі) прызнаюцца бадзячымі і павінны адстрэльвацца. Пра катоў і гаварыць нечага. З свайго боку мы заўважым, што сабак **паляўнічых** зьнішчаць нельга, а трэба накладаць узысканьне ў парадку саюзнай дысцыпліны на паляўнічых—іх гаспадароў. Што датычыць сабак службовых—аўчарак і іншых карысных парод,—дык аб іх гаворыць ня прыходзіцца. Інструкцыя таксама гаворыць, што сабак дазваляецца трымаць у лясістай паласе пры статках жывёлы, але толькі на прывязі.

Другая падстава—гэта тое, што адстрэльваючы бадзячых сабак і катоў, мы тым самым, у некаторай ступені, дапаможам выканаць пляны мехсыравінных нарыхтовак.

Другая катэгорыя драпежнікаў паляўнічай гаспадаркі—гэта некаторыя дзікія зьверы і птушкі. З зьвяроў на першае месца трэба паставіць усім вядомага ваўка. Аб яго зьнішчэньні мы ўжо ня раз і шмат пісалі, а таму тут абмяжуемся толькі тым,



Цецяравятнік у палёце.

што, пачынаючы з красавіка, барацьба з ваўкамі (разбурэньне гнёздаў і зьнішчэньне малых) дасьць вялікія посьпехі, калі паляўнічыя зацікавяцца гэтай справай. Для гэтага трэба своечасова паклапаціцца раённым т-вам і ячэйкам паляўнічых. Што датычыцца іншых драпежнікаў са зьвяроў (ліс, тхор, рысь і іншыя), дык трэба сказаць, што пытаньне—наколькі яны шкодны (ліс), наколькі карысны, ня вывучана, а то проста іх вельмі мала (рысь), ці наогул не заслугоўваюць асаблівай увагі па той шкодзе, якую яны прыносяць (тхор). У зьнішчэньні апошніх трэба кіравацца іншымі мерапрыемствамі, як, напрыклад, выкананьне плянаў пушмехнарыхтовак.

Больш падрабязна трэба спыніцца на некаторых пярнатых драпежніках, як, напрыклад, каршуны **куратнік і перапялятнік і балотны лунь.** Гэтыя віды драпежнікаў—асабліва першы і другі з іх—зьяўляюцца бічом для нашай лясной і балотнай дзічыны. Спыняцца на спосабах іх зьнішчэньня не дазваляюць разьмеры артыкулаў. Але трэба сказаць, што вясна зьяўляецца самым падыходзячым і самым найлепшым па сваіх посьпехах часам для іх зьнішчэньня. Як вядома, каршуны гнезьдзяцца ў глыбокіх цёмных лясох на высокіх дрэвах, адкуль яны лётаюць на кармёжку ў такія мясцы, дзе плодзяцца карысныя птушкі. Ходзячы па такіх мясцох паляўнічы можа лёгка ўстанавіць месца гнездаваньня каршуна, шляхамназіраньня за яго прылетамі і адлётамі і за іх токам у паветры*). А ўстанавіўшы месца гнездаваньня, лёгка знайсьці і яго гняздо. Пад тым дрэвам, на якім ёсьць гняздо каршуна часамі валяюцца розныя адкіды (памёт, пер'е і г. д.) ад харчоў, ад тых жывёл, якіх ён ужывае ў харчы. Апрача таго, малыя каршуны вельмі моцна і своеасабліва гучна крычаць, калі бываюць галодныя, заклікаючы бацькоў, што таксама можа паслужыць паказальнікам знайсьці гняздо. Як толькі гняздо будзе знойдзена, трэба прыпільнаваць ураньні або ўвечары (можна і днём) старых каршуноў і застрэліць іх. Пасьля гэтага малыя падохнуць нават ад голаду, а можна разбурыць і гняздо.



Балотны лунь у палёце.

Што-ж датычыцца іншых пярнатых драпежнікаў, як балотны лунь, шэрая варона і звычайная наша сарока, дык іх трэба адстрэльваць на паляўнічых угодзьдзях, дзе іх, звычайна, у гэты час, вельмі шмат, а таксама разбураць гнёзды. Не гаворачы ўжо аб балотным луне, які вельмі шкодзіць паляўнічай гаспадарцы, задзіраючы паляўнічых птушак, шэрая варона і сарока зьяўляюцца вельмі шкоднымі

*) Каршун цецяравятнік у вясну такуе, кружачыся ў паветры і ганяючыся адзін за адным.

птушкамі. На старонках паляўнічага друку ня раз прыводзіліся факты, што шэрая варона разбурала гнёзды качак, выпіваючы яйкі іх, нападала нават на вялікіх зайцоў і забівала іх і г. д. Былі выпадкі, што шэрыя вароны апусташалі цэлыя берагі рэчак ад прысутнасьці чыркоў. Сарока ня менш шкодна, чым варона, разбурэньнем гнёздаў і зьнішчэньнем яек іншых птушак.

Вось на гэтыя зьявішчы ў прыродзе і паляўнічай гаспадарцы ў гэтую вясну паляўнічыя і павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу. Іх-жа аб'яднаньні—райтаварыствы і ячэйкі—павінны дапамагчы ім арганізуючы брыгады, даючы заданьне, адпускаючы боепрылады, але і для адстрэлу драпежнікаў, разгортваючы сацыялістычныя мэтады працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва і змагаючыся з апартуністычнымі настроямі некаторых працаўнікоў, а таксама ліквідуючы абязьлічку. Чым больш паляўнічыя зьвернуць увагу на драпежнікаў у гэтую вясну, тым больш будзе ўзьнята прадукцыйнасьць паляўнічай гаспадаркі і захавана дзічы да канчатковага ўпарадкаваньня паляўнічых угодзьдзяў. А падняцьце прадукцыйнасьці ў паляўнічай гаспадарцы зараз набывае палітычнае значэньне ў зьвязку з выкананьнем экспартных плянаў адшуканьня новых дадатковых крыніц харчавых прадуктаў для забесьпячэньня рабочых.

**Мік. Цэлеш.**

# Вясна і ячэйкі паляўнічых

„Наладжвай калёсы ўзімку, а сані ўлетку!"—гавораць народная прыказка. Вядома, гэта адносіцца і да паляўнічай гаспадаркі, толькі з той розьніцай, што тут трэба наладзіць не калёсы, а куды важнейшую рэч—угодзьдзі паляўнічай гаспадаркі. Не сакрэт, што ў мінулыя гады, паляўнічыя ў такі момант, як вясна, вельмі мала зьвярталі ўвагі на падняцьце ўраджайнасьці паляўнічых угодзьдзяў і ня дзіва, што адчыняючы паляваньне ўлетку, „ахалі ды охалі", што мала дзічыны, малыя вывадкі і пускаліся ў разважаньні накшталт таго, што прычынай таму?

Прычынай гэтаму, апроч усяго іншага, можа быць наша работа, работа раённых таварыстваў і паляўнічых ячэек, работа кожнага паляўнічага.

Праходзіла вясна, а ня было адпаведнай ініцыятывы ад кіруючых органаў паляўнічай гаспадаркай, ня была завострана ўвага паляўнічых мас на будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі—сьвядомае будаўніцтва!—а ня тое, што пакладацца на самую прыроду, стыхійнасьць, а потым усё звальвалі на „аб'ектыўныя" ўмовы, на няспрыяючую вясну, на паветра, на дажджы і г. д.

Хіба вінавата прырода ў тым, што мы кепска—вельмі кепска!—ахоўваем свае паляўнічыя заказныя месцы, расаднікі дзічыны? Хіба вінавата прырода ў тым, што мы сваячасова не падыйшлі і не накіроўвалі ініцыятывы паляўнічых мас на адстрэл усіх відаў—і сваячасовы адстрэл! шкодных драпежнікаў паляўнічай гаспадаркі? Хіба вінавата прырода ў тым, што мы не абезаружылі яшчэ і да гэтага часу браканьераў,—а яны ёсьць ва ўсіх раёнах! І хіба вінавата прырода ў тым, што гэтыя браканьеры зьнішчаюць шмат вельмі каштоўнай дзічыны, ня лічучыся ні з тэрмінамі паляваньня, ні з чым? І, урэшце, хіба вінавата прырода ў тым, што мы не вядзем амаль ніякай работы па ахове месц гнездаваньня дзічыны і ад браканьераў, і ад несьвядомай часткі насельніцтва, разбураючай гнёзды і выбіраючай яйкі, малых птушанят і зьвяроў, і ад браканьераў, якія яшчэ ў горшай меры ўсугубляюць гэтае зло?

Вядома, прырода ні ў якай меры не вінавата ўва ўсім гэтым, а вінаваты мы самі.

З наступленьнем вясны раённыя т-вы і ячэйкі паляўнічых павінны павесьці ўсіленную работу па ахове паляўнічай гаспадаркі, па зьнішчэньню браканьерства і драпежніцтва. Перарэгістрацыя канчацца 15 лютага. Сьпісы на неперарэгістраваных членаў саюзу ўсімі раённымі т-вамі павінны быць перада-ы ў міліцыю і стрэльбы адабраны.

Апрача таго ячэйкі паляўнічых павінны мабілізаваць паляўнічыя масы на ўтварэньні брыгаднага веснавога паляваньня па шкоднікаў, на барацьбу з браканьерамі і драпежнікамі.

Там-жа, дзе ячэек няма, неабходна іх арганізаваць. Асабліва неабходна арганізаваць ячэйкі паляўнічых у глухіх кутках, дзе браканьеры зусім распаясаліся. Вельмі вялікую ролю па барацьбе з браканьерствам, з парушыцелямі правіл і тэрмінаў паляваньня могуць адыграць рабселькоры. Яны павінны браць „на пяро" усякага ворага паляўнічай гаспадаркі, дасылаючы гэты матар'ял у паляўнічы друк, у насьценгазэты і г. д. Трэба сказаць, што ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі вельмі марудна прымаюцца меры па рэагаваньню на допісы, зьмешчаныя ў паляўнічым друку. **Трэба ўдарыць і па тых, хто зажымае крытыку і самакрытыку,—а няпрыняцьце мер па допісах і нельга назваць чым-небудзь іншым.** Паляўнічая маса, раённыя т-вы і ячэйкі, кіраўніцтва **Белкахотсаюза павінны зараз-жо рэагаваць на той ці іншы допіс, зьмешчаны ў паляўнічым друку.**

Між іншым, трэба сказаць, што вельмі кепска ўвязваецца наша работа па барацьбе з браканьерствам, па стралковаму спорту і іншых галінах у паляўнічых ячэйках пры вайсковых частках. Неабходна зараз-жа прыступіць да арганізацыі паляўнічых ячэек у вайсковых частках, дзе ёсьць адпаведны лік паляўнічых, і павесьці ў іх адпаведную работу.



Тут адчыняецца перад намі вялікі гарызонт у сэнсе разьвіцьця стралковага спорту, у сэнсе ваенізацыі паляўнічых. Паляўнічы добры лазутчык, добры разьведчык; ён добра арыентуецца ў мясцовасьці—гэта ўсім вядома. Але, увязаўшы гэтую работу з вайсковымі ячэйкамі паляўнічых, іх можна было-б яшчэ лепш знаёміць з абставінамі на вайне, ваенізаваць. Паляўнічаму-ж чырвонаармейцу неабходна быць знаёмым з задачамі будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, пушнамехавога і дзічынага промыслу, а гэтыя веды ён і мог-бы атрымаць праз паляўнічую ячэйку пры сваёй частцы.

Ячэйкі паляўнічых павінны ўвязацца ў сваёй рабоце з работай ячэек Асоавіяхіма. Тут ёсьць агульныя галіны работы, як стралковы спорт і сабакагадоўля. Між тым мы бачым поўную адарванасьць ад агульнага жыцьця нашых паляўнічых ячэек, замкнутасьць у коле паляўнічай справы, у той час, калі жыцьцё ідзе ўперад і, разам з гэтым, патрабуе ад паляўнічых арганізацый і новых напрамкаў у рабоце, і новых тэмпаў і інш.

Белкахатсаюзу неабходна распрацаваць палажэньне аб ячэйках паляўнічых, пашырыць яго, ліквідаваць замкнутасьць і даць новы напрамак работы ім, адпаведны тым задачам, якія зараз стаяць перад нашым жыцьцём. Асабліва неабходна гэта зрабіць зараз, неадкладна, увесну, з тым разьлікам, каб ячэйкі былі сапраўднымі будаўнікамі паляўнічай гаспадаркі. Вясна надыходзіць і нам неабходна трэба яе, як найлепш выкарыстаць у напрамку падняцьця прадукцыйнасьці пушнамехавога і дзічынага промыслу. **Такая задача перад паляўнічай каапэрацыяй, перад усёй паляўнічай масай і яна павінна і будзе выканана.**

Усяго гэтага, як і ў іншых галінах працы паляўнічай сыстэмы каапэрацыі і ўва ўсім нашым жыцьці, сацыялістычным будаўніцтве, мы можам дасягнуць толькі на аснове 6-ці ўказаньняў т. Сталіна, толькі праводзячы гэтыя ўказаньні ў практыцы нашай работы, толькі пераключыўшыся на новыя мэтады працы, зьліквідаваўшы абязьлічку, кулацкую ўраўнілаўку, увёўшы зьдзельшчыну, разгортваючы сацыялістычныя мэтады працы ў паляўнічай масе і ва ўсёй нашай сыстэме.

**М. Ц.**



Закурываюць.

---

**Арганізуючы паляўнічую масу, разгортваючы соцыялістычныя мэтады працы ў паляўнічых ячэйках, брыгадным парадкам адстраляем у гэтую вясну шкодных драпежнікаў паляўнічай гаспадаркі!**

**Павядзем барацьбу за падняцьце прадукцыйнасьці пушнамехавога і дзічынага промыслу!**

# Узьняць тэмпы загатоўкі крата і грызуноў

У гэтым артыкуле мы ня будзем разьбіраць пытаньне аб карыснасьці ці шкоднасьці крата для сельскай гаспадаркі. Гэтае пытаньне зусім своечасова паставіў на павестку дню праф. А. У. Фядзюшын у артыкуле „Прамысловае і сельскагаспадарчае значэньне крата“ (Гл. „П. Б.“ № 11 і 12 за 1931 г.). Праф. А. У. Фядзюшын прыводзіць некаторыя даныя аб крату замежных навуковых сіл і нашых, і робіць вывады: „... што крот, разам з вялікай карысьцю, прыносіць і шкоду...“ (сельскай гаспадарцы, вядома). У другім месцы ён гаворыць: „існуючая здабыча крата ў БССР пакуль яшчэ настолькі нязначна, што наўрад ці можна апасацца закрануць колькі-небудзь інтарэсы сельскай гаспадаркі, нават павялічыўшы здабычу крата ў 10 разоў...“

У другім месцы праф. Фядзюшын гаворыць, што шкоднасьць і карыснасьць крата для сельскай гаспадаркі трэба дасьледваць **у розных умовах**. І гэта зусім зразумела. Крот большай часткай жыве на сенажацях. Тут ён, робячы свае ходы і выкідаючы на верх цэлыя кучы зямлі бязумоўна шкодзен. Шкодзен ён і для садоў. Што датычыць пахатных зямель, дык там ён можа быць і карысным, паколькі зьнішчае шмат іншых шкодных шасьціножак і нават грызуноў (мышэй, палёвак). Але-ж і трэба сказаць, што тут ён жыве менш, чым на сенажацях, у садох і ў іншых, да іх падобных, мясцох. Апрача таго і сам праф. Фядзюшын, як гэта было сказана, не адмаўляе таго, што нават павялічыўшы здабычу крата ў 10 разоў, гэта ня зробіць уплыву на ўраджай сельскай гаспадаркі.

З гэтага мы павінны і выходзіць пры складаньні плянаў загатоўкі крата на сэзон 1932 г. Між тым, у мінулым мы недастаткова стымулявалі гэтыя загатоўкі. Мы вельмі мала працавалі па мабілізацыі насельніцтва на адлоў крата, што відаць з артыкула Фядзюшына, у якім гаворыцца, што лоўля кратоў дастаткова інтэнсыўна разьвіта, толькі ў адным Полацкім раёне.

Адловам крата можа займацца кожны грамадзянін як гораду, так і вёскі. Крот ёсьць усюды—і ў горадзе—у садох, агародах, каля рэчак, негаворачы ўжо аб вёсцы, дзе ён сустракаецца ў вялікай колькасьці ўсюды — у гумне, на агародзе, у садзе, на сенажацях і дзе ўгодна Такім чынам, калі сам паляўнічы ня можа з-за недахопу часу заняцца гэтым промыслам, ён можа накіраваць на гэта сваю сям'ю, паказаўшы ім спосаб лову гэтага зьвярка. У артыкуле „Там, дзе разумеюць задачы“ у гэтым-жа нумары, гаворыцца аб тым, як жонка аднаго паляўнічага занялася промыслам крата. Мне самому прыходзілася сустрэцца, будучы ў камандыроўцы ў Бялыніцкім раёне, з адным паляўнічым в. Зазер'я **Сідарам Ціхановічам**, які за адзін сэзон налавіў кратоў прыблізна на 75 рублёў. Прычым, ён не займаўся гэтай справай так, каб спэцыяльна на гэта траціць час. Звычайна, працуючы ў полі, на сенажацях, ідучы ў лес, ён браў з сабой краталоўкі і, дзе пападаліся сьвежа нарытыя кучкі зямлі кратом, зараз-жа ставіў пастку. Асабліва добрыя вынікі лову былі тады, калі ён ставіў пасткі на ноч і, прыходзячы раніцай на праверку пастак, знаходзіў з дзесяці пастаўленых пастак пяць поўнымі.

Можна колькі ўгодна прывесьці прыкладаў пасьпяховага здабываньня крата, без асаблівай затраты сродкаў і часу, але зацікавіўшыся гэтай справай. І сапраўды справа адлову крата вельмі лёгкая. Тут толькі трэба мець дастатковую колькасьць пастак і навучыцца іх ставіць. А між тым, як гэта ўжо ня раз пісалася ў нашай часопісі, у некаторых мясцох назіраўся ў мінулым сэзоне недахоп іх. Былі і такія выпадкі, што раённыя т-вы зусім ня клапаціліся, каб забясьпечыць своечасова спажыўца гэтымі прыладамі лову і не падавалі заяўкі на іх. У некаторых т-вах паляўнічых практыкавалася і абязьлічка ў гэтай справе. Кіраўнікі т-ва гаварылі:—„А, што там крот! ня наша справа займацца адловам яго і кіраваць ня наша справа ў гэтым напрамку!“ Трэба змагацца з такімі шкоднымі настроямі. Да наступленьня сэзону Белкахотсаюз павінен забясьпечыць пасткамі ўсе раённыя т-вы для стымуляваньня загатовак крата.

Вельмі карысна заняцца адловам крата падросткам, школьнай моладзі, піянэратрадамі і г. д. З аднаго боку, гэтым самым яны будуць прыцягвацца да вывучэньня прыроды, да разуменьня зьявішчаў яе, а з другога — прынясуць карысьць дзяржаве шкуркамі крата. Наогул моладзь вельмі жыва цікавіцца прыродай, жыцьцём зьвяроў і птушак, і тут ім неабходна даць адпаведны напрамак. Канюшкі і пастушкі таксама могуць вельмі пасьпяхова заняцца адловам крата.

Што-ж датычыць іншых грызуноў, як хамяк і суслік, дык трэба сказаць, што гэтыя зьвяркі ёсьць толькі ў некаторых раёнах. І там, дзе яны ёсьць, наладзіць адлоў іх вельмі неабходна. Гэтыя зьвяркі зьяўляюцца выключна шкоднымі для сельскай гаспадаркі.

Апрача паказаных вышэй зьвяркоў, на адлоў якіх павінна быць зьвярнута ўвага,—трэба некалькі слоў сказаць аб вадзяным і „амбарным“ пацуках. Гэтых стварэньняў ведае ўсякі. Часта яны пападаюцца ў пасткі. Але ў нас было ня прынята вазіцца з здымкай шкурак з гэтых жывёл, ды і попыту з боку гандлюючых арганізацый на іх ня было. Такім чынам шкуркі іх прападалі задарма і для дзяржавы і для таго хто іх злавіў. У зьвязку з сітуацыямі на мехавым рынку, зараз на шкуркі вадзянога і „амбарнага“ пацука ёсьць вялікі попыт і здыманьне шкурак з іх дасьць карысьць. Апрача таго, што гэтых жывёл звычайна ловяць як шкоднікаў, іх неабходна лавіць і спэцыяльна на шкуркі. Дзе жывуць гэтыя стварэньні і дзе на іх ставіць пастку, нам думаецца ўсякі грамадзянін ведае, а таму аб гэтым тут гаварыць мы ня будзем.

Праўда, што пры здыманьні шкурак гэтых зьвяркоў—асабліва вадзянога пацука, неабходна, як гэта мы зазначалі і раней, захоўваць санітарныя ўмовы і недапускаць да гэтай справы (здыманьне шкурак) дзяцей, бо былі выпадкі, што ад тушак гэтых зьвяроў заражаліся хваробай.

Неабходна сказаць некалькі слоў і аб сабаках і катох. Шкуркі сабак і катоў зараз таксама ідуць у справу. З іх вырабляюцца і мяхі для адзеньня, і шкуры для абутку, а таксама на іншыя патрэбы. Між тым

гэтыя два драпежнікі (бадзячыя сабакі і каты) зьяўляюцца самымі шкоднымі для паляўнічай гаспадаркі. Неабходна паляўнічым узяцца за зьнішчэньне гэтых драпежнікаў.

Такім чынам, павёўшы барацьбу з драпежнікамі сельскай, паляўнічай і лясной гаспадаркі, здаваючы іх шкуркі ў каапэрацыю мы павялічым прадукцыйнасьць паляўнічага промыслу, падымем ураджай сельскай гаспадаркі і пазбавім нашы сады і сенажаці ад такога шкодніка, як крот *), а здымаючы шкуркі з іх, выканаем свае пляны, г. зн. дамо дадатковыя сродкі на сацыялістычнае будаўніцтва.

**Мікалаеў.**

*) Катэгарычна лічыць крата шкоднікам, пакуль што мы ня можам, як гэта і гаварылася ў папярэдніх артыкулах проф. А. У. Фядзюшына. Рэд.

# Рашуча змагацца за мехсыравіну

Паступіўшыя ад 18 раённых т-ваў зьвесткі аб ходзе пушмехсыравінных нарыхтовак сыгналізуюць аб ганебных тэмпах. Выкананьне квартальнага пляну па гэтых раённых т-вах за першую дзесяцідзёнку выявілася ў 7 проц., а апошнія 62 раённыя т-вы зусім ня далі сваячасова зьвестак. Асабліва ганебныя тэмпы ў нарыхтоўках паказалі наступныя райтаварыствы: Вушацкае, Касьцюковіцкае, Крычаўскае, Жыткавіцкае, Клімавіцкае, Клічаўскае, Церахоўскае, Лоеўскае, Талачынскае, Парыцкае, Расонскае, Узьдзеньскае, Хойніцкае, Чачэрскае, Суражскае, Стара-Дароскае і Бярэзінскае.

У выніку ганебнай работы гэтых райтаварыстваў нарыхтоўкі мехсыравіны зрываюцца. Адсутнасьць бальшавіцкіх тэмпаў, адсутнасьць масавай работы сярод паляўнічых, правал контрактацыі — вось прычына гэтаму. У апраўданьне сваёй бязьдзейнасьці кіраўніцтва Вушацкага т-ва сваёй адносінай ад 6-І Белкахотсаюз паведамляе: **„Ня страшце нас! Калі мы не правялі кантрактацыі, дык яшчэ ўсьпеем“.** Гэта адно характарызуе яго работу. Праўленьне Касьцюковіцкага раёну таксама недалёка адкацілася ад Вушач: **„Кантрактацыі мы не правялі таму, што некаму ў раён выехаць, а самі паляўнічыя ня ідуць кантрактавацца“.** Бачыце, члены Касьцюковіцкага праўленьня закінулі вудачку і чакаюць, пакуль клюне. Хіба гэта не самацёк? Хіба гэта не апартунізм на практыцы? Жлобінскае райтаварыства ўдарылася ў адну крайнасьць: „гандлюе“ і больш нічога не прызнае. Талачынскае т-ва зусім адмовілася ад заключэньня контрактацыйных дагавораў з паляўнічымі.

Неабходна павесьці з гэтым самую рашучую барацьбу. Райкомы, раённыя РСІ і РВК вышэйпаказаных раёнаў павінны змагацца за аздараўленьне работы раённых т-ваў, за выкананьне плянаў нарыхтовак. Яны павінны зацікавіцца работай сваіх раённых т-ваў паляўнічых і ўмацаваць іх адпаведнымі сіламі, зьняўшы з працы зрыўшчыкаў плянаў і аддаўшы іх пад суд. Неабходна рашуча мабілізаваць усе сілы раёну на выкананьне і перавыкананьне плянаў, арганізаваць паўсядзеўны кантроль за выкананьне кантрактацыйных дагавароў, заключаных з калгасамі, ячэйкамі паляўнічых, брыгадамі і аднаасобнымі паляўнічымі.

Таксама неабходна павесьці барацьбу з асяданьнем пушніны ў паляўнічых, дабіцца сваячасовай здачы пушніны раённымі т-вамі на базу. Неабходна прасякчы спробы кулацкага элемэнту сарваць пушнарыхтоўкі, агітуючы паляўнічых супроць здачы пушніны, як гэта мела месца 10-І г. г. у Бягомльскім райтаварыстве, дзе была дана магчымасьць выступіць з кулацкай агітацыяй выкінутым з каапэрацыі клясавым ворагам.

Неабходна таксама выявіць лжэўдарнікаў, лжэкантрактантаў, якія падпісалі кантракты, каб атрымаць авансы і аслабаніцца ад іншай працпавіннасьці і аддаць іх пад суд.

Некаторыя калгасы недаацэньваюць значэньне пушмехнарыхтовак і не аслабаняюць калгасьнікаў, заключыўшых кантрактацыйныя дагаворы, для паляваньня — трэба зжыць і такія адносіны. Пляны, заключаныя калгасамі на пушныя нарыхтоўкі павінны быць выкананы.

Белкахотсаюз павінен даць суровы адпор зрыўшчыкам пушмехсыравінных нарыхтовак. Расхлябанасьці і бязьдзейнасьці райтаварыстваў, аб якіх было сказана вышэй, трэба пакласьці канец і зжыць абязьлічку і самацёк, змагаючыся за хутчэйшае пераключэньне райтаварыстваў на новыя мэтады працы на аснове 6-ці ўказаньняў нашага правадыра т. Сталіна. Белкахотсаюз і Белсаюзпушніна павінны ўсямерна дапамагаць раённым т-вам, якія б'юцца за бальшавіцкія тэмпы ў пушнарыхтоўцы.

**Бабчонак.**

# Там, дзе разумеюць задачы

У напрамку да цэнтра гораду з чыгуначнай станцыі вы абавязкова трапляеце на амаль простую, з кепска адрамантаваным брукам, вуліцу, што простай лініяй перасякае ўвесь Магілеў.

Гэта—Першамайская. На ёй, каля вялікага, у стылі вайсковай казармы, чырвонага будынку ў аднапавярхоўным маленькім доміку зьмяшчаецца паляўнічая крама і радам-жа—праўленьне Магілеўскага **куставога** т-ва паляўнічых. (Кустявога таму, што яно кіруе будаўніцтвам і арганізацыяй паляўнічай гаспадаркі трох раёнаў: **Магілеўскага, Чавускага, і Бялыніцкага**). Гэты будынак я адшукаў па адпаведнай вывесцы па ім: **„Крама Магілеўскага куставога таварыства паляўнічых“.**

Заходжу ў вельмі добра абсталяваную краму, кажу па якой справе.

— Так, так... калі ласка! насьпех сказаў мне загадчык. Гандлюем вось, бачыце, чым можна, ды і дзень сёньня „базарны“, а таму і народу шмат.

Каля прылаўка і сапраўды таўпілася дзесяткі з два людзей і кожны на свой лад „асаджаў“ прыказчыка ўласным патрабаваньнем і рознымі пытаньнямі. Ён на хаду адзначаў нешта ў сяброўскіх кніжках, у нейкіх сьпісах; выдаваў шрот, гільзы, махорку, даваў адказы на запытаньні.

— Ведаеце, — вы пакуль што зайдзеце ў праўленьне, а потым больш падрабязна азнаёміцеся з крамай пасьля...

Заходжу ў праўленьне. У вочы адразу кідаецца вялікая колькасьць усялякіх скурак ад зайцоў, лісіцы, трусоў і г. д. Яны займаюць палову пакою. З пачатку гэта зьдзівіла крыху мяне і толькі пасьля я даведаўся, што член праўленьня тав. Кіртанаў (сталы працаўнік — сябр праўленьня) сам асабіста прымае іх ад паляўнічых і замест крамы робіць гэта ў канцэлярыі ў „сваім уласным габінэце“...

— Я гэта раблю сам,—сказаў ён мне,—бо, разумееш, тут трэба пільна сачыць за якасьцю прынасімай сыравіны. Я прымаю яе па сартох, а потым ужо вось спэцыяльны працаўнік складае яе ў мяшкі, падлічвае і такім чынам мы адпраўляем матар'ялы куды належыць. Пасьля такой заўвагі т. Кіртанаў вельмі падрабязна пачаў адказваць мне на пытаньні аб выкананьні плянаў і будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі ва ўсіх яе галінах.

— З пачатку году ў мяне прарыў быў утварыўся па загатоўках. Я заўважыў гэта, між іншым, з самага пачатку. І ўсё таму, што мы пакла́ліся былі на „актыўнасьць“ саміх паляўнічых ды ячэек на мясцох і недастаткова, проста слаба, кіравалі іх работай з свайго боку.

У лепшым нават выпадку мы пісьмова, альбо праз прадстаўнікоў ячэек перадавалі заданьні, пісалі аб неабходнасьці выканаць іх, прычым рабілі гэта ў самых агульных формах і не паказвалі канкрэтных форм работы. Таму і здарылася было пагражаючае становішча.

Але добра тое, што ў свой час мы папярэдзілі гэта становішча. Прышлося мяняць формы і мэтады кіраўніцтва. Галоўны ўпор пры гэтым неабходна было зрабіць на ўзьняцьце растлумачальнай работы сярод паляўнічых і разам з гэтым на заключэньне дагавароў. Былі праведзены сходы ячэек, куставыя сходы, інструкцыйныя даклады і г. д. У выніку ўсяго гэтага ўжо да паловы году мы мелі значны зрух; што штурхнула нас у другім паўгодзьдзі мінулага году і асабліва ў апошнім (IV) квартале яшчэ больш пасіліць канкрэтнае апарацыйнае кіраўніцтва работай сярод паляўнічых. Заключэньне дагавароў пры гэтым мы давалі амаль да 100 проц. і шмат якія ячэйкі выклікалі адна другую на сацспаборніцтва.

Такім чынам да канца 1931 году мы прышлі з наступнымі паказчыкамі па адпаведных галінах:

## 1. Лік членаў т-ва і нізавых ячэек

лічбовы склад т-ва на 1-I—32 г. мае такі малюнак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| па Магілеўскаму раёну | —1240 чал. | з 25 | ячэйкамі. |
| „ Чавускаму | „ — 227 | „ з 12 | „ |
| „ Бялыніцкаму | „ — 367 | „ „ 13 | „ |

Разам па трох раёнах —1834 чал. і 50 нізавых ячэек.

Усе ячэйкі арганізацыйна аформлены, кіраўнікі іх—на вучоце ў кустТаварыстве. Трымаецца вельмі добрая жывая сувязь з ячэйкамі і, акрамя таго, усе пратаколы паседжаньняў іх маюцца ў таварыстве.

## 2. Барацьба з драпежнікамі і браканьерамі

Барацьба з драпежнікамі і бадзячымі сабакамі характарызуецца наступнымі лічбамі: бадзячых сабак зьнішчана за год 3013 шт., з якіх брыгадамі адстрэлена 732 (усіх брыгад для гэтай мэты было арганізавана 48).

Ваўкоў аблаўным шляхам зьнішчана 15. Такая малая колькасьць зьнішчэньня іх тлумачыцца адсутнасьцю ў т-ве дастатковых сродкаў для гэтай мэты.

За зьнішчэньне драпежнікаў і бадзячых сабак т-вам выдана прэмій на суму 1547 руб., з якіх брыгады атрымалі 493 руб. 98 кап., асобныя паляўнічыя 1054 руб.

Разам з гэтым праведзена барацьба і з браканьерамі, у выніку чаго за год выяўлена т-вам 152 браканьеры, з якіх стрэльбы ўзяты міліцыяй да гэтага часу толькі ў 57 чал., што трэба лічыць зусім недастатковым.

## 3. Будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі

У 1931 годзе арганізавана 3 заказьнікі на зьвера і водаплаваючую дзічыну. З іх у Магілеўскім раёне—1 заказьнік (у Ямніцкай дачы) з агульнай плошчаю ў 1300 *га*. У Бялыніцкім раёне—2 (Друцкі заказьнік былы „Крыжаў Бар“) з плошчаю ў 1500 *га* і Davidчанскі з плошчаю ў 6.000 *га* (былое Нехцінскае л-ва). Апрача гэтага, у Чавускім раёне маецца заказьнік на баброў, у якім маецца каля 25 сем'яў іх.

Дзякуючы сталаму нагляду за заказьнікамі ў іх пачалі зьяўляцца выбітыя раней зьвяры і птушкі: **кабаны, козы, куніцы, мядзьведзі, нават ласі і глушцы.**

Арганізацыю трусятніку т-ва пачало ў 1931 г. З пачатку яно закупіла на месцы 24 трусы і з імі пачало справу. Да мая м-ца работа ў гэтым напрамку праводзілася самацёкам. Але ў маі быў запрошан трусавод-спэцыяліст і арганізацыя трусятніку наладзілася вельмі добра. Зараз (на 1-I—32 г.) трусятнік мае 315 трусоў, з якіх 200 штук па пляну мяркуецца пакінуць у якасьці асноўнага стада і 115 належыць выбракоўцы (мяса іх будзе здана па дагавору райпатрэбсаюзу, а шкуркі—пушсындыкату).

Для забесьпячэньня трусятніку кармамі праўленьне ў мінулым годзе заарэндавала ў Магілеўскім прамгасе 2 *га* зямлі і само апрацавала і засеяла яе. У выніку атрымала — караньплодаў (бульбы і агародніны) 16000 *кг*, сена 1600 *кг*, што забясьпечвае трусятнік кармамі да красавіка м-ца.

У далейшым праўленьне будзе мець спэцыяльны вучастак зямлі з плошчаю: пахаці — 7,69 *га*, сенажаці—3,78 *га* і некалькі *га* іншых ўгодзьдзяў—разам 13,44 *га*. Гэты вучастак (был. насеннаводная станцыя Наркамзему) зацьверджан РВК за т-вам і тут яно мяркуе ў далейшым арганізаваць спэцыяльную ўзорную трусаводную гаспадарку. Сродкі для гэтай мэты мяркуе адпусьціць Белкахотсаюз. Апрача гэтага т-ва мяркуе ўцягнуць у гэту справу нізавыя ячэйкі і асобных паляўнічых праз заключэньне з імі дагавароў на разьвядзеньне трусоў з тэй мэтай, каб увесь прыплод ад іх з мясам і шкуркай здаваўся-б паляўнічымі і ячэйкамі ў т-ва па вядомай расцэнцы.

## 4. Выкананьне плянаў загатовак

На 1931 год таварыства мела заданьне нарыхтаваць на 18.000 руб. пушніны і мехсыравіны. На 1-I—32 г. гэта заданьне выканана на 86 проц. Недавыкананьне заданьня ў мінулым годзе тлумачыцца, з аднаго боку—кепскім задавальненьнем паляўнічых бояпрыладамі, з другога-ж, нездавальняючай работай на мясцох і прадажай пэўнай часткі здабытых шкурак прыватнікам.

Але-ж як-бы там ні было, а недавыкананьне пляну на 14 проц. у мінулым годзе т-ва лічыць запазычанасьцю перад дзяржавай і прымае адпавед-

ныя крокі да спагнаньня гэтай запазычанасьці ў бягучым годзе, у першым квартале. Пры чым, зараз-жа трэба адзначыць, што размах работы ў гэтым напрамку дае ўсе падставы спадзявацца, што гэта спагнаньне будзе праведзена.

Так, напрыклад, пасьля перарэгістрацыі і правядзеньня перавыбараў вясковых ячэек, ніводны паляўнічы не застаўся без дагавору па здачы пэўнай колькасьці пушніны і мехсыравіны. Апрача таго, цэлы рад ячэек уступілі ў сацспаборніцтва паміж сабою з ажыцьцяўленьнем ударніцтва ўнутры іх. **Палыкаўская ячэйка выклікала на сацспаборніцтва Гаранскую па здачы прадукцыі на 800 р. Княжыцкая—Бракаўскую на 700 руб., Краснапольская—Мастоцкую на 700 р., Вендарская—Добрасьневіцкую—на 700 руб.** і г. д.

Поруч з гэтым з боку т-ва вядзецца шырокая растлумачальная работа аб значэньні выкананьня плянаў загатовак, шырока практыкуецца выдача авансаў (грашовых) у лік здачы пушніны і мехсыравіны па дагаварох, выдача прамтавараў здатчыкаў, бояпрыпасаў і інш.

Усё гэта знаходзіць сваё выражэньне ў тым, што за 2 першыя дзесяцідзёнкі 1 кварталу ў 1932 г. заданьне выканана: **па Магілеўскаму раёну—па пушніне на 82 проц., па мехсыравіне—на 55 пр., па Чавускаму—30 і 35 проц., па Бялыніцкаму—55 і 30 проц.—гэта значыць, у сярэднім па т-ву заданьне першага кварталу 32 г. за дваццаць дней выканана: па пушніне—на 55 проц., па мехсыравіне—на 40.**

## 5. Мабілізацыя сродкаў

Згодна фінансавага пляну т-ву неабходна было мабілізаваць у 1931 г. 8860 руб. сродкаў. Шляхам шырока разгорнутай масавай работы і цьвёрдай адміністрацыйнай лініі т-ва справілася з такой задачай і на 1-I—32 г. мабілізавала 14365 р. З іх паявых сабрана 8150 руб., уступных—997 руб і мэтавых—5318 руб. 10 кап. Такім чынам плян па мабілізацыі грашовых сродкаў перавыканан звыш 50 пр., у выніку чаго ніякай запазычанасьці за паляўнічымі няма (за невялікім выключэньнем).

## 6. Культмасавая работа

Культмасавая работа ў т-ве характарызуецца наступным. Пры праўленьні маецца чырвоны куток паляўнічага, чытальня, дзе кожны паляўнічы мае магчымасьць чытаць газэты, часопісі і іншую літаратуру. З газэт для чытальні выпісваюцца: „Nзвестия“, „Правда“, „Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“, „Каапэрацыйнае жыцьцё“ і інш. З часопісаў „Паляўнічы Беларусі“, „Охотник и рыбак Сибиры“, „Соц. Кролиководство“, „Коллективист“, „Раб. і сялянка“, „Огонек“ і г. д.

Апрача гэтага, у 1932 годзе праўленьне мяркуе арганізаваць спэцыяльныя бібліятэчкі пры ўсіх нізавых ячэйках. Частка гэтай задачы праведзена ўжо ў жыцьцё, бо ў шмат якіх ячэйках бібліятэчкі арганізаваны. Там-жа, дзе сталых бібліятэчак няма пэрыядычна дастаўляюцца бібліятэчкі—перасоўкі. Поруч з гэтым, два разы ў год ва ўсіх ячэйках склікаюцца вясковыя канфэрэнцыі паляўнічых, на якіх вядуцца гутаркі і лекцыі па розных пытаньнях, зьвязаных з будаўніцтвам паляўнічай гаспадаркі, з жыцьцём нашага савецкага саюзу наогул.

Пры ўсім гэтым, адным з буйнейшых недахопаў культмасавай работы т-ва трэба лічыць адсутнасьць якіх-колечы захадаў па арганізацыі і разьвіцьцю рабселькораўскага руху сярод паляўнічых. Выходзячы з гэтага праўленьне ў далейшым уключыць работу ў гэтым напрамку ў свой агульны плян, а пытаньне аб арганізацыі рабселькораўскіх гурткоў паставіць спэцыяльным пытаньнем на кустовым зьезьдзе паляўнічых, які адбудзецца ў лютым м-цы.

Вось асноўныя моманты ў рабоце Магілеўскага кустовага т-ва, якія заслугоўваюць таго, каб гаварыць аб іх. Бо яны яскрава сьведчаць аб тым, што там, дзе разумее задачы перш за ўсё само праўленьне, будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, у шырокім сэнсе гэтага разуменьня, пазбаўлена і аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын і мае вартыя пільнай увагі колькасныя і якасныя паказчыкі.

**А. Сідарэнка.**

# Арганізуем бібліятэчкі

Кустовыя нарады старшынь раённых т-ваў паляўнічых, што адбылася ў сьнежні 1931 года, асобным пунктам у сваіх пастановах асабліва падкрэьлілі неабходнасьць арганізацыі спэцыяльных бібліятэчак пры ўсіх ячэйках паляўнічых. З свайго боку Белкахотсаюз падтрымаў гэтую пастанову і, такім чынам, мы сталі зараз перад задачай практычнага ажыцьцяўленьня яе. Бо прынцыпова кажучы, на сёнешні дзень проста ня можа быць нават і гутаркі аб тым—патрэбны ці не патрэбны такія бібліятэчкі. Ня можа быць таму, што карыснасьць іх, як аднаго з галоўнейшых сродкаў узьняцьця на належную вышыню культмасавай работы, як асновы апошняй,—добра ўсьвядомлена зараз большасьцю нашых райтаварыстваў, нізавых ячэек і нават асобных паляўнічых.

З практыкай арганізацыі паляўнічых бібліятэчак нам прышлося спаткацца, напрыклад, у Магілеўскім, Быхаўскім і Рагачоўскім раёнах. Пры гэтым з усёй відавочнасьцю выявілася, што гэтыя бібліятэчкі складзены (у сэнсе падбору для іх літаратуры) як папала. Гэта значыць, літаратура, якая маецца ў іх, далёка не адпавядае тым запатрабаваньням, што пред'яўляюцца да бібліятэчак з боку паляўнічых.

У лепшым выпадку ў іх можна знайсьці перш за ўсё некалькі паляўнічых, сельскагаспадарчых і агульна-палітычных часопісяй, некалькі газэт. Гэта ўсё, што можна прыняць за адпавядаючы сутнасьці справы літаратурны матар'ял. Што-ж да іншай літаратуры, дык яна складаецца з некалькіх брашур, сярод якіх ёсьць значная частка выдадзеных некалькі год таму назад і таму вартасьць іх зараз вельмі сумніцельная.

Такім чынам склад літаратуры для бібліятэчак, калі і адпавядае задачам агульна-палітычнага выхаваньня паляўнічых, дык ні ў якім разе ня можа задаволіць неабходнасьці чыста спэцыфічнага выхаваньня іх менавіта як паляўнічых сьвядомых будаўнікоў паляўнічай гаспадаркі. Пры чым самі райтаварыствы ні ў якім разе ня могуць справіцца са складаньнем такіх бібліятэчак, ня могуць вырашыць справы ўкамплектаваньня іх адпаведнай літаратурай.

А з гэтае прычыны за гэту справу перш за ўсё павінен узяцца культсэктар Белкахотсаюзу. **С—ка.**

# Рост трусагадоўлі ў паляўнічай каапэрацыі

Справа выкананьня дадвеных Белкахотсаюзу заданьняў па трусагадоўлі зараз абстаіць ня вельмі здавальняюча. На 1-І—32 г. павінна было-б быць грунтоўнага стада: самак 8100 і самцоў—900, але на 1-ІІ—1932 г. маецца: самак 5534 і самцоў—840 (з ліку якіх 282 павінны быць заменены на племянных — пародных). Гэта значыць, што агульны плян па ўкамплектаваньню выканан толькі на 70,8 проц. Магчыма, што ён выканан і больш, але раённыя т-вы па-былому вельмі не своечасова прадстаўляюць патрэбныя зьвесткі і тым самым пазбаўляюць Белкахотсаюз магчымасьці сачыць за выкананьнем заданьня.

Зусім дрэнна таксама стаіць справа здачы трусоў на мяса: плян у 13.000 тушак быў даведзены да ўсіх т-ваў яшчэ 1-І—32 г., а па маючыхся зьвестках на 1-ІІ—32 г. здадзена ўсяго 532 тушкі, г. зн.—3,8 проц. Праўда і тут магчыма процант выкананьня фактычна большы, але зьвестак таксама няма. Кіраўнікі райтаварыстваў відаць не жадаюць улічваць таго, што непрадстаўленьне зьвестак, не дае магчымасьці весьці вучот і кіраваць як трэба работай.

Па пляну разьвіцьця трусагадоўлі ў далейшым вызначана па 35 гаспадарках наступнае: будаўніцтва жылых хат—20, пунь—40, ізалятараў—32, гарэн—9, „паркетаў"—18, выгулаў для маладняка—1030, клетак тыпавых (нутраных)—1950, клетак наружных—у якіх трусы будуць знаходзіцца ўвесь год на адчыненым паветры—2240. На ўсё гэтае будаўніцтва Белкахотсаюз мяркуе ўкласьці ўласных сродкаў—125.000 руб. і дабіцца крэдыту—263.412 руб. На супольнае ўкамплектаваньне грунтоўнага стада мяркуецца на працягу 1932 г. укласьці уласных сродкаў—35.000 руб. У мэтах забесьпячэньня кармамі на 1932—33 год мяркуецца засеяць 449 *га* рознымі расьлінамі, што будзе каштаваць — 52.378 р. 88 к.

Вядуцца перамовы, прымаюцца захады да таго, каб набыць насеньне земляной грушы і распаўсюджваць яе, бо гэта вельмі каштоўны корм для трусоў як па сваёй якасьці, так і колькасьці. Увосень мяркуецца нарыхтоўваць сілосны корм. Усе памянёныя мерапрыемствы дадуць магчымасьць зрабіць больш тонным утрыманьне трусоў, выгадаваць добра і маладняк, зрабіць трусагадоўлю больш рэнтабельнай і супольна выканаць дадзены на 1932 г. плян: давесьці прыплод да 70.500 шт., здаць мясатушак—51.500 кілё, шкурак—68.600 шт., пуха-пяра—234 кілё і мець на 1-І—33 года добраякаснае грунтоўнае стада з колькасьцю самак—10.300 шт. і самцоў—1.200 шт. Вядома, што адных плянаў недастаткова і трэба, каб для выкананьня гэтага пляну райтаварыствы, якія маюць трусятнікі, больш зацікавіліся гэтай справай, больш зьвярнулі на яе ўвагу і пабальшавіцку ўзяліся за выкананьне абавязкаў перад дзяржавай.

**Б. С.**

---

# Кантрактацыю—у цэнтр увагі

За апошні час работа Рагачоўскага т-ва паляўнічых значна ажывілася. Гэтаму, галоўным чынам, спрыяла тая „акалічнасьць", што пасьля раённага зьезду паляўнічых на пасаду старшыні праўленьня абраны добры працаўнік. У сувязі з гэтым апошнім знаходзіцца і тое, што на сёнешні дзень прыведзена ў належны парадак і як належыць пастаўлена работа канцылярыі праўленьня. Ёсьць рахункавод і сакратар.

Усё гэта не магло не адбіцца станоўча на ўзьняцьці работы ва ўсіх галінах. Так, напрыклад, калі некалькі месяцаў таму назад, у той час, як абавязкі старшыні выконваліся па сумяшчэньню, трусы ў маючымся трусятніку, нібы без нагляданьня, проста бегалі па полю, дык зараз т. Андрэяў ужывае ўсе захады для таго, каб прывесьці ў парадак трусятнік і ўжо шмат зрабіў у гэтым напрамку. Праўда, трэба адзначыць, што яшчэ і зараз трусятнік прыведзен не ў належны парадак, бо пры клетачным прынцыпе, які ўжывае таварыства, у клетках знаходзіцца толькі частка трусоў (маецца 63 тыповых клеткі на 180 штук трусоў), тады як другая частка зьмяшчаецца ў хляву ў агульным памяшканьні. А гэта, бясспрэчна, зьяўляецца вельмі ненармальным, бо на выпадак якой-колечы эпідэміі пагражае вялікай стратай стаду. Між іншым, гэта добра разумее і старшыня праўленьня. Але пабудаваць астатніх клетак праўленьне ня мае магчымасьці таму, што для гэтага не хапае (зусім няма) цьвікоў, хоць усе астатнія матар'ялы ў т-ве і маюцца. Белкахотсаюзу і райнаркамснабу неабходна тэрмінова вырашыць гэта пытаньне.

Аднак асабліва трэба падкрэсьліць поруч з усімі дадатнымі бакамі ў рабоце праўленьня той вельмі адмоўны факт, што ў т-ве зусім слаба разьвіта і наогул пастаўлена культмасавая работа сярод паляўнічых мас. Нават і пры самым т-ве няма чырвонага кутку і адпаведнай паляўнічай бібліятэкі, што наглядаецца, напрыклад, у Магілеўскім т-ве і іншых раёнах. Пра арганізацыю-ж паляўнічых бібліятэчак пры нізавых ячэйках і гаварыць ня прыходзіцца. У зьвязку з гэтым у апошнім знаходзіцца і зусім недастатковая работа па заключэньні кантрактацыйных дагавораў і таксама і сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж паляўнічымі і ячэйкамі, што, бясспрэчна, ставіць пад пагрозу зрыву выкананьне плянавых заданьняў па загатоўцы пушніны, мехсыравіны ў першым квартале бягучага году. Так, на 1-ІІ—32 г. было закантрактавана па т-ву—пушніны на 722 руб. і мехсыравіны—на 427 руб. І гэта ў той час, як заданьне на 1 квартал па загатоўцы пушніны і мехсыравіны вызначана для т-ва у 2000 руб.

У зьвязку з гэтым праўленьню т-ва неабходна зараз-жа надаць рабоце па заключэньні дагавароў належныя бальшавіцкія тэмпы і арганізаваць яе

такім чынам, каб яна забясьпечвала выкананьне дадзенага т-ву заданьня па загатоўках праз заключэньне кантрактацыйных дагавароў. Для гэтай мэты неабходна скарыстаць, як галоўныя сродкі, грашовыя авансы ў лік здачы па дагавору паляўнічай прадукцыі, розныя тавары і прадукты і г. д. Адпаведным чынам неабходна скарыстаць пры гэтым і растлумачальную работу.

Нарэшце апошняе, што трэба адзначыць як недахоп—гэта слаба разгорнутую работу па арганізацыі рабселькораўскага руху на мясцох пры паляўнічых ячэйках. Гэтымі пытаньнямі праўленьне нават і не цікавілася і таму зараз яму неабходна, разам з ажыўленьнем і наладжваньнем культмасавай работы наогул, зьвярнуць належную ўвагу і на разьвіцьцё рабселькораўскага руху. **А. С—ка.**

## Бяз вучоту нельга працаваць

Пры пераходзе паляўнічай каапэрацыі на новыя мэтады працы, вучот і плянавасьць павінны адыгрываць вялізарную ролю. Між тым у некаторых раённых т-вах пастаўлена справаздача так кепска, што скрываюцца злоўжываньні. Так, напрыклад, выкрыты растраты ў Крычаўскім, Касьцюковіцкім, Мазырскім, Парыцкім, Жлобінскім і іншых таварыствах. Усё гэта вынік таго, што ня было заведзена адпаведнай справаздачы.

Трэба сказаць, што рэвізыйныя камісіі ў гэтых раённых т-вах бязьдзейнічалі, што зусім недапушчальна.

Усё гэта вядзе да зьнішчэньня грамадзкіх сродкаў і не дае магчымасьці плянава весьці паляўнічую гаспадарку.

Для зьнішчэньня гэтых зьявішчаў Белкахотсаюзам у пачатку 1932 году будуць праведзены кароткатэрміновыя курсы рахункаводаў для нізавой сыстэмы каапэрацыі. Раённыя т-вы павінны сур'ёзна аднесьціся да гэтай работы і вылучыць для пасылкі на курсы таварышоў з такім разьлікам, каб у кожным раённым т-ве быў самастойны рахункавод ці бухгальтар.

Апрача таго Белкахотсаюзам выпрацоўваецца адзіная форма справаздачнасьці для ўсяе сыстэмы паляўнічай каапэрацыі.

Такім чынам, падрыхтаваўшы адпаведны лік кадраў і ўвёўшы адзіную сыстэму справаздачы, мы зможам плянава праводзіць тую ці іншую кампанію ў паляўнічай каапэрацыі, што дасьць значныя вынікі ў нашай рабоце. **Паўлюк.**

## На дапамогу гарадзкому паляўнічаму

Вельмі часта прыходзіцца чуць, асабліва ад гарадзкіх паляўнічых скаргі, што ім некалі паляваць і таму яны ня могуць прыняць удзел у выкананьні плянаў розных відаў нарыхтовак. На маю-ж думку гарадзкі паляўнічы таксама мае магчымасьць і павінен дапамагаць у нарыхтоўках, калі не заўсёды прадуктам паляваньня са зброяй, дык іншымі мэтадамі. Напрыклад, у многіх паляўнічых ёсьць сады ці агарод, якім шкодзіць крот, а вось злавіць яго, ды зьняць шкурку (калі ўбачыш забітага ці дохлага крата) ня ўсе паляўнічыя жадаюць.

Таксама і другога шкодніка—пацука—ня ўсе паляўнічыя жадаюць лавіць і зьнімаць шкурку, бо лічаць гэта непатрэбным.

Потым: ядуць-жа гарадзкія паляўнічыя курэй, вутак і іншую птушку, а вось прасачыць, каб птушку добра абскублі і потым здавалі пух і пяро, ў сваё т-ва—мала хто хоча. Кожны лічыць, што такой дробязьзю займацца ня трэба, а між тым з усёй гэтай „дробязі“ магчыма было-б скласьці амаль што поўнае заданьне па выкананьню плянаў пэўных відаў нашых нарыхтовак.

Час падумаць ужо кожнаму паляўнічаму над гэтай справай.

**С—ч.**



# Паляваньне ў Аршанскім раёне ў 1931 г.

Раён займае вялікія лясныя прасторы. Па колькасьці зьвера і птушкі ён хоць і ўступае больш багатым у гэтым сэнсе раёнам Беларусі, у лясох якіх ёсьць буйныя зьвяры (кабаны, мядзьведзі, козы і інш.), але ўсё-ж паляўнічая фауна яго вельмі рознастайная. Галоўнымі відамі пушнога зьвера ў раёне зьяўляецца лісіца, заяц, тхор, белка, выдра, гарнастай і інш. З птушак маюцца—глушэц, цецярук, белая і шэрая курапатка, рабец, качка, вальдшнэп і некаторыя іншыя.

Аднак, першае месца ў паляўнічай фауне займае цецярук.

Прысутнасьць і колькасьць дзічы ў лясох раёну неаднолькавая. Блізка каля гарадоў і чыгунак яе менш, бо тут на яе ўтвараюць паляваньне вялікае колькасьці паляўнічых. Але ў больш глухіх мясцох, удалёных ад гарадоў, адстрэл дзічы вельмі нязначны і прырост яе ў гэтых мясцох „рэгулюе" голькі хіба „кумка-ліса" ды не пакінуты яшчэ звычай пастухоў браць з сабою дваровых сабак, якія зьнішчаюць яйцы і маладняк, на што некаторыя паляўнічыя не зьвяртаюць належнай увагі.

**Веснавое паляваньне ў мінулым годзе на селязьня і цецярука не апраўдала тых надзей, якія рысаваліся пры адчыненьні паляваньня.** Прычына гэтага перш за ўсё ў самай арганізацыі і правядзеньні яго. Так, раніцою, калі на прагалінах зьяўлялася па 20—40 чарнышэй, утваралася бесьперапынная страляніна, што адбілася на колькасьці дзічы вельмі адмоўна. Гэта ў дачыненьні да цецярукоў. Паляваньне-ж на качак у значнай ступені было сарвана тым фактам, што ў мінулым годзе, як і ў іншых рэспубліках саюзу, у нас у БССР быў вельмі моцны разьліў рэк вясной. Гэта затрымала шмат качак, а ў выніку здабыча селязьня па раёну была ніжэй сярэдняй. Апрача гэтага ў паляўнічых ня было спэцыяльных вабікаў, якія нідзе не прадаваліся. Падсадных-жа качак я ні ў кога не сустракаў, а гэта значыць, што селезьняў было шмат, але здабыча іх нязначная.

Пэрыяд аховы гнязьдаваньня птушак сярод паляўнічых прайшоў вельмі не арганізавана. За ўвесь час не практыкаваліся групавыя выязды для адстрэлу бадзячых сабак, ястрабоў, якіх можна было спаткаць на кожным кроку ў час летняга паляваньня.

Паляваньне на качак у летні сэзон дало вельмі значныя вынікі, бо вясеньні разьліў затрымаў для гняздаваньня вялікую колькасьць іх. Сярод качак пападаліся, галоўным чынам, крыжны і чыркі, шылахвосьць. Шыроканоска траплялася рэдка. Таксама было шмат і бэкасоў, якія на працягу ўсяго сэзону сустракаліся на кожным кроку.

Паляваньне на цецярукоў у мінулым годзе пачалося з 1-VIII. Выводкі іх на 30 проц. пападаліся няпоўныя. Але наглядалася вялікая колькасьць матак халасцячак. Вытлумачыць гэта цяжка. Многія паляўнічыя тлумачаць гэта не апладатварэньньнем самак на „токах" з прычыны частых разгонаў.

Паляваньне на глухарыныя выводкі ў гэтым годзе становіць сабою адно з самых цікавых зьявішчаў. У час свайго паляваньня, у большасьці выпадкаў сярод лясоў Клюкоўскага сельсавету каля Багушэўскай, я напаткаў чатыры выводкі глухарэй.

Рабец і ў глухіх лясох Аршаншчыны трапляецца рэдка і амаль зусім зьнік. Паляваньне-ж на белую курапатку ўтваралася адначасна з цецярукавым. Яна сустракалася шматлікімі выводкамі і як заўсёды надта дрэнна падпушчала да сябе сабаку.

Паляваньне на зайца ў гэтым годзе пачалася з 1-XI. Гэта першы год, у які з русаком прышлося спаткацца ва ўсёй яго прыгожасьці з упаўне дарослым. Больш вольным ад работы паляўнічым прышлося паганяць касога па чорнаму тропу і першыя паляўнічыя былі надта дабычлівы. Але-ж першая палова лістападу і бяссьнежныя палі, у некалькі дзён абледзянеліся, затрымалі некалькі паляваньне на зайцоў. А іх вельмі многа.

Час з 1-XI паляўнічыя лічаць нармальным пачаткам паляваньня на зайца, бо ў гэты час, і мяса яго спажыўна і скурка цэнна.

Паляваньне на лісіцу ў гэтым годзе чыста выпадковае. Ня гледзячы на тое, што ў шмат якіх паляўнічых на Аршаншчыне ёсьць „англа-русы", з якімі можна ганяць лісіцу, апошняе ўтваралася вельмі мала.

У далейшым здабычу лісіцы трэба павялічыць, а Белкахотсаюзу для гэтага трэба папулярызаваць паляваньне на яе з сьцяжкамі.

Разам з гэтым слаба пастаўлена справа зьнішчэньня ваўкоў, а між тым іх таксама шмат.

**Манькоўскі.**



# Вынікі гадовай працы Лагойскага райтаварыства

За апошнія гады ў жыцьці Лагойскага таварыства наглядаўся значны зрух. З сотні сяброў некалькі год таму назад, у 1931 г. ў ім налічвалася 402 паляўнічых. Па сацыяльнаму складу яны дзяліліся так: рабочых 31, служачых 42, ваеннаслужачых 1, міліцыі 1, лясной варты 9, сяброў прафсаюзаў 74, калгасьнікаў 226, сялян-індывідуальнікаў 92.

Па партыйнасьці: сяброў КП(б)Б—5, кандыдатаў—4, сяброў ЛКСМ—6, беспартыйных—387.

У склад праўленьня ўваходзіла 13 чалавек. Працавала 2 чалавекі: старшыня па саўмяшчэньню і крамнік. На працягу году былі зьмены як старшыні, так і крамніка. Старшынёй быў абраны нач. міліцыі Сваткоў, але ён за перагружанасьці службовай работай для т-ва нічога ня мог зрабіць і перадаў у першай палавіне году справы свайму намесьніку—Пузырэўскаму. Але і Пузырэўскі нажаль ня змог ахапіць усіх бакоў працы, ад чаго ў ёй было многа прарываў. Далей, у другой палове году быў зьменен крамнік Сушкэвіч. Ён добры сумленны чалавек, але вялікі маруда. Калі яму ў краме прыходзілася адпускаць тавары, то ўсе скардзіліся, што ён доўга трымае. А калі прымаў пушніну, дык так доўга аглядаў яе, што да яго не хацелі несьці. Пузырэўскі быў зьменен, але новы крамнік Карнашэўскі больш трымае краму пад замком. Нават у такія дні, калі зьбіраўся раённы зьезд паляўнічых як 10-І і 31-І—32 г. ён адпіраў краму на 1 гадзіну, а пасьля выганяў сяброў з пушнінай на вуліцу і яны ня здаўшы пушніны ехалі дамоў. Плян загатовак далёка ня выкананы.

Добрым бокам работы праўленьня трэба лічыць мабілізацыю сродкаў, якіх усяго сабрана 5.449 руб. Яны падзяляюцца так: паявых—2.641 руб., уступных—303 р., мэтавых—136 руб., арганізацыйных—248 руб., за білеты—83 р. 40 к., каса ўзаемадапамогі—375 р., дзяржзбору—397 р. 50 к., іншых—32 р.

Дрэнна прайшлі загатоўкі. Плян загатоўкі пушніны выканан на 33 проц., мехсыравіны на 10 проц., пух і пер'я—0 проц, лектраў—41 проц. і бітай дзічы—2 проц.

Вытворча-арганізацыйная праца вялася яшчэ горш за загатовак. Тут за ўвесь год было толькі 5 пасяджэньняў прэзыдыуму. Больш нічога ніхто нідзе і ні з кім не рабіў.

Рэўкамісія перад зьездам хацела зрабіць рэвізію, але прыступіла да яе і няскончыла. Культасьветнай працы зусім ня было. Маецца і бібліятэка пры таварыстве і 2 бібліятэкі перасоўкі, але імі к вялікаму нашаму сораму, ніхто не карыстаецца.

Журнал „Паляўнічы Беларусі“ выпісвала толькі 50 чалавек.

Перарэгістрацыя ў канцы 1930 г. даручана была крамніку Чэрніну. Праводзячы яе, аб падпісцы на журнал „Паляўнічы Беларусі“, ён нічога нікому ні слова не казаў. Калі я яму наконт гэтага зрабіў заўвагу, ён адказаў: „правядзіце падпіску па ячэйках“. Але ячэйкі па сваёй малапісьменнасьці нічога не рабілі.

У гэтым годзе перарэгістрацыя даручана была ячэйкам, але палова іх да раённага зьезду яшчэ нічога не зрабіла. А ячэйка Слабодзкага савету зрабіла сьпіс сяброў мінулага году і на гэтым заснула. Ячэйкі саветаў павінны былі разьбіцца на калгасныя і саўгасныя па вытворчасьці, але ў большасьці саветаў гэтага разьдзелу ня зроблена за недахопам актыўных сяброў.

На раённы зьезд зьбіраліся два разы. Першы раз зьезд назначан быў на 10-І з модусам прадстаўнікоў ад 5 сяброў па 1 дэлегату. Але на зьезд зьявілася толькі 12 чалавек. Тады перанесены быў зьезд на 31-І. Аб ім разасланы былі па саветам паперкі і два разы зьмяшчалася аб'ява ў раённай газэце. На гэты раз выклікалася па 1 дэлегату ад кожнай ячэйкі. Усяго сабралася 15 чалавек. Ад 2 саветаў дэлегаты не зьявіліся.

На зьезьдзе стаялі пытаньні:

1. Выкананьне пляна першай пяцігодкі і кантрольныя лічбы другой пяцігодкі.

2. Справаздача праўленьня і рэўкамісіі.

3. Выбары: праўленьня, рэўкамісіі і касы ўзаемадапамогі.

Спорным пунктам у спрэчках было пытаньне аб узаемаадносінах паміж калгаснай працай і часам для паляваньня. Ад прэзыдыума высунута была прапанова: на першым месцы праца ў калгасе і замацаваньне яго, а на другім месцы паляваньне, якое мае ў нашых умовах другараднае значэньне. Некаторыя таварышы не хацелі з гэтым згадзіцца. З абурэньнем супроць гэтай прапановы выступіў старшыня Гаенскай ячэйкі П. Кузьміцкі. Ен уносіў прапанову, каб кожны сябра паляўнічых хадзіў на паляваньне, калі ён захоча і каб праведзеныя на паляваньні дні заносіліся калгасам у яго працоўную кніжку. Але гэта прапанова была адхілена зьездам.

По справаздачы праўленьня ў рэзалюцыю ўнесена было многа пунктаў, накіраваных на ажыўленьне працы як раённага праўленьня, так і ячэек на прадпрыемствах. Рэўкамісію зьезд абавязаў праводзіць рэвізію па кварталах.

**Я. Сапрык.**



# УДАРНІКАМ, БАРАЦЬБІТАМ ЗА ПУШНІНУ—ПРЭМІЯ. ПАДЦЯГНУЦЬ АДСТАЮЧЫХ

## ЗАГАД № 16

**па ўправе ўпаўнаважанага Наркамзамежгандлю СССР пры СНК Бел.**

г. Менск, 10-II—1932 г.

§ 1.

Дзякуючы нездавальняючай працы рэспубліканскіх і раённых загатоўчых арганізацый, гадавы плян нарыхтовак за 1931 г. выканан: па пушніне—84,7, па мехсыравіне—81,7 проц.

Асноўнымі прычынамі невыкананьня пляну зьяўляюцца: недаацэнка большасьцю загатоўчых арганізацый важнасьці экспорту, у зьвязку з чым праца па загатоўцы не пастаўлена у цэнтр увагі, як важнейшая палітычна-гаспадарчае задача. Вакол загатовак ня была разгорнута шырокая грамадзкая праца і не ўнядраўся сацыялістычны мэтад працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж рэспубліканскімі і раённымі загатоўчымі арганізацыямі.

Побач з недавыкананьнем гадавога пляну, маецца шэраг раённых загатоўчых арганізацый, якія дзякуючы праяўленай актыўнасьці па-бальшавіцку змагаліся за экспарт, выканалі і перавыканалі свае гадавыя пляны па пушмехсыравіне.

Раённыя загатоўчыя арганізацыі: райахотсаюзы, райсаюзы і райкаапсаюзы, якія выканалі і перавыканалі свае гадавыя пляны, прэміраваць у паказанай ніжэй суме:

| Гадавы плян выканан | Па пушніне у % % | Па мехсырав. у % % | Сума прэміі у руб. |
|---|---|---|---|
| **Па сыст. Белкахотсаюзу** | | | |
| Аршанскі Райахотсаюз . . . . . . . | 160 | 121 | 400 |
| Бярэзінскі " . . . . . . . . | 125 | 102 | 300 |
| Прапойскі " . . . . . . . . | 120 | 120 | 300 |
| Касьцюковіцкі " . . . . . . . . | 106 | 129 | 300 |
| Менскі " . . . . . . . . | 118 | 104 | 300 |
| Рэчыцкі " . . . . . . . . | 129 | 98,5 | 200 |
| Койданаўскі " . . . . . . . . | 114 | 75,0 | 200 |
| Крупскі " . . . . . . . . | 106 | 50,0 | 200 |
| **Па сыст. Белкаапсаюзу** | | | |
| Сіроцінскі райсаюз . . . . . . . . | 178.4 | 113 | 400 |
| Гомельскі " . . . . . . . | 135 | 149 | 300 |
| Чачэрскі " . . . . . . . . | 80 | 152 | 250 |
| Бешанковіцкі " . . . . . . . . | 223 | 85,5 | 250 |
| Хойнінскі " . . . . . . . . | 75 | 114 | 200 |
| **Па сыст. Белхлебжывсаюзу** | | | |
| Віцебскі райкоопсаюз . . . . . . . | 118,5 | 193,4 | 400 |
| Пухавіцкі " . . . . . . . . | 117,7 | 60.3 | 400 |
| Уваравіцкі " . . . . . . . . | 140,4 | 191,4 | 200 |
| Веткаўскі " . . . . . . . . | 101,4 | 125,1 | 200 |
| Асьвейскі " . . . . . . . . | 258,8 | 59 | 200 |
| Чашніцкі " . . . . . . . . | 168.6 | 5 ,7 | 200 |
| Сіроцінскі " . . . . . . . . | 149 | 63,6 | 200 |
| Полацкі " . . . . . . . . | 167,3 | 27,2 | 300 |

Прэміі выдаваць прамтаварамі і грашыма.

§ 2.

Асабліва адзначаю добрыя паказчыкі па якасьці крата і жарабка па Пухавіцкаму Райкаапсаюзу, а таксама адзначаю Полацкі райкаапсаюз, які разгарнуў энэргічную працу вакол нарыхтовак крата.

§ 3.

Пэрсанальнае разьмеркаваньне вызначаных прэмій паміж асобнымі сельпо, ячэйкамі паляўнічых, упаўнаважаных райкаапсаюзаў, а таксама паміж сябрамі Праўленьня — райахотсаюзаў, райсаюзаў і райкаапсаюзаў даручаецца рэспубліканскім загатоўчым арганізацыям сумесна з раённымі экспартнымі нарадамі.

§ 4.

За правільнае кіраўніцтва, своечасовае рэагаваньне на ход загатовак пушніны, дзякуючы чаму па сыстэме Белхлебжывсаюзу за 1931 г. па пушніне выканана—101 проц., адказнага выканаўцу тав. Глікмана прэміраваць у суме 200 руб. прамтаварамі і грашыма.

§ 5.

Народна-гаспадарчы плян 1932 г. 4-га заключнага году пяцігодкі патрабуе максымальнага пашырэньня і разгортваньня больш шпаркімі тэмпамі загатовак усіх відаў экспартных тавараў у тым ліку пушніны і мехсыравіны, для поўнага і своечасовага забесьпячэньня імпортным абсталяваньнем будуючыхся і вызначаных да пабудовы сацыялістычных гігантаў.

Спадзяюся, што рэспубліканскія і раённыя загатоўчыя арганізацыі на падставе 6-ці гістарычных умоў тав. Сталіна перабудуюць сваю працу па новаму і свае пляны за 1932 г. перавыканаюць, узяўшы рашучы ўпор на першы рашаючы квартал па загатоўцы пушніны.

Упаўнаважаны НКЗГ СССР пры
СНК БССР **РЭДЭР.**



Рэдкалегія: Тамашэўскі, Цэлеш, Волдынь, проф. Фядзюшын.

За адказнага рэдактара П. Тамашэўскі.

Друкарня імя Сталіна Заказ № 524. 10.000 экз. Галоўлітбел № 297.

